


# Беларус

Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!
Францішак Багушэвіч
(1840-1900)

№ 371 Чэрвень-ліпень 1990
Год выд. XXXIX

BIELARUS / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.00


## ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў БЭРЛІНЕ

22-24 чэрвеня ўва Ўсходнім Бэрліне адбылася беларуска-нямецкая канфэрэнцыя ў пытаньнях ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел старшыня Сойму Беларускага Народнага Фронту, народны дэпутат БССР Зянон Пазьняк, старшыня камітэту БНФ



*Выступленьне З. Пазьняка. Перакладае зь беларускае ў нямецкую Ларыса Урбан.*

«Дзеці Чарнобыля», народны дэпутат БССР Генадзь Грушавы, старшыня Беларускага экалягічнага саюзу (БЭС), народны дэпутат БССР Міхась Савіцкі, віцэпрэзыдэнт БЭС Яўген Пятраеў, заходненямецкія навукоўцы і прадстаўнікі экалягічных, рэлігійных і пацыфісцкіх групаў. Асноўнае пытаньне, якое стаяла на парадку дня, гэта вызначэньне найбольш эфэктыўных і патрэбных цяпер беларускаму народу формаў дабрачыннай дапамогі, якія магла-б даць Нямеччына.

Цяпер два мільёны Беларусаў жывуць там, дзе гэта небясьпечна для здароўя ці наогул нельга жыць. Аднак падпарадкаваная Маскве Беларусь ня мае сродкаў дзеля тэрміновага адсяленьня людзей. Эвакуацыя вымагае пабудовы новых 200 вёсак і 12 гарадоў на чыстых землях. Аднак улады імкнуцца любым коштам захаваць эканамічны, адміністрацыйны і палітычны патэнцыял няпрыдатных для жыцьця раёнаў.

Мюнхэнскі прафэсар радыёбіялёгіі Лёнгфэльдэр падкрэсьліў, што праведзеныя ім дасьледваньні адносна ўплыву Чарнобыльскай аварыі на экалягічны стан Баварыі даюць падставу сцьвярджаць, што часова дапушчальныя нормы радыёнуклідаў у прадуктах харчаваньня, прынятыя ў Беларусі, павінны быць зьменшаныя ў 10-20 разоў. Сапраўды, жыхары пакуль чыстай Віцебскай вобласьці толькі за кошт ужываньня нячыстай ежы атрымаюць за жыцьцё славутыя 35 бэраў. Што тады гаварыць пра астатніх?!

Менскі сацыялёг Зелянкоў і старшыня экалягічнай камісіі пры Віцебскім гарсавеце Дарафееў імкнуліся навязаць адкінутую ўжо нават многімі прадстаўнікамі прамысловa-атамнага комплексу думку аб радыяфобіі: маўляў, апрача псыхічнага страху няма ніякай іншай небясьпекі. Відавочна, такі пагляд базуецца не на навуковых дадзеных, а на патрэбах уладаў.

На канфэрэнцыі выступіў з прамовай старшыня БНФ З. Пазьняк. Гаварыў ён пабеларуску. У нямецкую мову перакладала супрацоўніца Беларускай



*Удзельнікі канфэрэнцыі: (зьлева) Генадзь Грушавы з жонкаю, Ларыса Урбан, Зянон Пазьняк і Валянтын Голубеў.*

сэкцыі радыё «Свабода» сп-ня Ларыса Урбан. Ніжэй падаём выняткі з прамовы З. Пазьняка.

Шаноўныя спадары і спадарыні!

Чарнобыльская катастрофа — гэта трагедыя беларускай нацыі. 70% радыёактыўнага рэчыва выпала на тэрыторыю Беларускай Рэспублікі. Каля 20% на землі Бранскай вобласьці РСФСР. Але, калі ўлічыць, што ў Бранскай вобласьці Расіі жыве ў ас-

*(Працяг на 2-й б.)*

## «ВАСІЛЁК» ПАБЫВАЎ НА РОДНЫХ ГОНЯХ



*«Васілёк» і сябры Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў зь Беласточчыны перад выхадам на сцэну зь песьняй "Люблю наш край".*

Танцавальны ансамбль Арганізацыі Беларуска- Амэрыканскае Моладзі «Васілёк» (кіраўнічка др. Ала Орса-Рамана) зьдзейсьніў у чэрвені сёлета сваё даўнае жаданьне — пабываць на зямлі бацькоў. У часе 10-дзённых гастроляў у Беларусі, на запросіны таварыства «Радзіма», «Васілёк» выступіў, разам з фальклёрна-музычным ансамблем «Жывіца», з канцэртамі ў Менску, Стоўпцах, Полацку, Вільні, Гародні. Усё прайшло вельмі памысна: гаспадары былі багатыя на гасьціну, гледачы — шчодрыя на воплескі, моладзь — шчырая на сяброўства. «Васількі» мелі нагоду ня толькі паказацца, але й шмат што пабачыць, наведаць мясьціны, зь якімі яны кроўна зьвязаныя.

Падарожжа аднак складалася ня толькі з прыемнасьцяў і радасных неспадзевак, але й з напружанае працы і недасыпаньня, бо інтэнсыўная праграма тэатральных паказаў ды розных фармальных і нефармальных сустрэчаў вымагала вялікага высілку й самаахвярнасьці. За ўсё гэта нашым падарожнікам і ўсім, хто ім памог у правядзеньні гэтага складанага і каштоўнага мерапрыемства, належыцца ад усіх Беларусаў шчырая пахвала й падзяка.

Пра дэталі падарожжа, у тым ліку некаторыя калярытныя і драматычныя эпізоды — у наступным нумары «Беларуса».



*Прэм'ера «Васілька» ў менскім Палацы прафсаюзаў. Публіка ў захапленьні.*

### МЭДЫКАМЭНТЫ ДЛЯ ЧАРНОБЫЛЬЦАЎ

Танцавальны ансамбль «Васілёк» завёз у чэрвені на Беларусь паўтары тысячы фунтаў мэдыкамэнтаў для дзяцей, хворых ад чарнобыльскай радыяцыі. Кошт мэдыкамэнтаў быў аплочаны часткава з Фонду Адраджэньня Беларусі, а часткава амэрыканскімі фармацэўтычнымі фірмамі.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 20 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска с перасылкаю 20 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвічам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

ноўным беларускае этнічнае насельніцтва, то зразумела, што пад небясьпекай апынуўся ў асноўным беларускі этнас. Гэтая небясьпека павялічваецца з кожным годам, бо фактычна нічога істотнага ня робіцца, каб выратаваць насельніцтва ад радыяцыйнага паражэньня, якое эквівалентнае ў цэлым па падліках вучоных 90 гірасімскім атамным бомбам.



*Зянон Пазьняк, старшыня Сойму БНФ, з групай беларускіх дзяцей з чарнобыльскай зоны, якія адпачываюць недалёка ад Бэрліну, дзякуючы стараньням камітэту БНФ «Дзеці Чарнобыля».*

Палавіна тэрыторыі Беларусі пакрыта радыяактыўным пылам у такой ступені, што жыць там людзям небясьпечна для здароўя. Гэта зоны ад 1-2 кюры на квадратны кілямэтар да 100-150, а месцамі плямы да 1000-3000 кюры на квадратны кілямэтар. Тым ня менш, людзі там жывуць па сёньняшні дзень, апрацоўваюць зямлю, вытвараюць харчовыя і прамысловыя радыяактыўныя прадукты, якія распаўсюджваюцца па ўсёй Беларусі. Такім чынам, адбываецца заражэньне радыёнуклідамі ўсяго насельніцтва Беларускай Рэспублікі.

Афіцыйныя партыйна-дзяржаўныя структуры выставілі мноства навукова-адміністрацыйных лоббі. Адміністрацыйна-дзяржаўны лаббізм праяўляецца ў трох асноўных аспэктах. Першае — фальсыфікуецца сапраўдны стан радыяцыйнай небясьпекі і здароўя людзей. Другое — сьцьвярджаецца, што радыяцыя ня так ужо і страшная для чалавека, ствараюцца на гэтай аснове розныя квазі-навуковыя канцэпцыі, падвышаюцца нібыта «бясьпечныя нормы» радыяцыі на некалькі парадкаў і г. д. Трэцяе — пераводзяць стан рэальнай радыяцыйнай небясьпекі ў псыхалягічны аспэкт успрыняцьця. Імкнуцца падмяніць рэальную радыяцыйную небясьпеку радыяфобіяй, «масавым псыхозам», як было паведамлена тут калегам сацыёлягам Зелянковам.

Партыйна-адміністрацыйная сыстэма ў Беларусі ўсяляк перашкаджае дзейнасьці незалежных дэмакратычных грамадзкіх арганізацыяў, якія імкнуцца канкрэтна, а не на словах ратаваць насельніцтва ад атамнай сьмерці. Асаблівыя перашкоды адчуваюць Беларускі Народны Фронт і яго камітэт «Дзеці Чарнобыля», створаны больш году назад, якім кіруе цяпер народны дэпутат БССР Генадзь Грушавы. Гэтыя арганізацыі не прызнаныя дзяржавай. Яна, дзяржава, супраць іх змагаецца. Дзяржаўная адміністрацыя ўтварае розныя падстаўныя папяровыя грамадзкія структуры, празь якія імкнецца праводзіць сваю палітыку і прафанціраваць справу выратаваньня народу ад ядзернага генацыду. Гэтыя структуры партыйна-камуністычная дзяржава падтрымлівае. Тут знаходзяць прытулак іх лоббі і калябарацыяністы.

Такім чынам, Чарнобыль у Беларусі — гэта важнейшы аспэкт палітыкі і палітычнай барацьбы. Гэта пытаньне выжываньня нацыі. І вырашаецца яно перш за ўсё палітычнымі сродкамі.

Вельмі істотнае для нас тое, што Беларусь — гэта калёнія Масквы, мы ня маем рэальнага сувэрэнітэту, ня можам распараджацца сваім лёсам, а ўсе нашыя партыйна-дзяржаўныя структуры зьяўляюцца калябарацыяністычнымі і па сутнасьці антынароднымі.

Першае, што трэба зрабіць — гэта перасяліць людзей з заражаных зонаў на чыстыя землі, прытым не разрываючы іх этнічна-сацыяльных структураў.

Другое, перастаць атрымліваць сельскагаспадарчую прадукцыю на заражаных землях.

Трэцяе, прадухіліць распаўсюджаньне радыёнуклідаў па ўсёй Беларусі.

Чацьвертае — арганізаваць мэдыцынскае лячэньне і прафілактыку насельніцтва Рэспублікі.

Усе гэтыя мерапрыемствы можна ажыцьцявіць пры дзьвюх умовах. Першае — дасягненьне дзяржаўнай незалежнасьці і поўнага сувэрэнітэту Беларусі. І другое — ліквідацыя таталітарнага камуністычнага рэжыму ў Рэспубліцы. Без выкананьня гэтых дзьвюх умоваў выратаваньне беларускай нацыі ад чарнобыльскай катастрофы немагчымае.

Бэрлін. 23. 06. 1990

# ПРА ЧАРНОБЫЛЬ У ЗАХОДНІМ ДРУКУ

**— Прэсавыя агенцтвы й галоўныя газэты, у тым ліку й Wall Street Journal (20. VI) падалі пра заяву ў Бруксэлі ў Бэльгіі дыплямата БССР Віктара Баравікова аб тым, што 70% чарнобыльскае радыяцыі дасталося Беларусі, дзе на заражанай частцы тэрыторыі жыве больш за два мільёны людзей, якіх трэба перасяляць. «У нас няма дазнаньня ў гэтай галіне, — сказаў Баравікоў, — і дзеля гэтага мы просім міжнароднае дапамогі».**

— Пасьля звароту зь Менску, куды ён завёз у сярэдзіне сакавіка сёлета мэдыкамэнты «чарнобыльцам», а. Аляксандар Надсон, Апостальскі Візытатар для Беларусаў-Каталікоў, выступаў на брытанскім тэлебачаньні зь інфармацыяй пра сваё падарожжа і вялікія патрэбы Беларусі ў дапамозе. Лёнданскія газэты групы «Таймс» (Times Group Newspapers, May 31, 90; Barnet Borough TIMES, June 7, 90) зьмясьцілі ілюстраваныя рэпартажы пра падарожжа а. Надсона з падрабязным апісаньнем няшчасьця, у якім апынуліся беларускія дзеці. Газэты заклікалі прысылаць грашовыя ахвяры на адрас: Byelorussian Radiation Relief Appeal, Marian House, Holden Avenue, London No. 12 8HY.

— Лёнданская газэта The Sunday Times (29. IV; тыраж: 1.150.000 экз.) зьмясьціла вялікі матар'л пра Чарнобыль пад заг. «Як Крэмль прыхоўваў жудасьць пра найгоршую ядзерную бяду». Аўтары матар'ялу — Ўолтэр Эліс, Вера Рыч і Джэймс Бліц. Артыкул багата ілюстраваны здымкамі й картамі, што дакумэнтальна паказваюць на шырокі маштаб катастрофы і злачыннасьць афіцыйных дзейнікаў. «Шмат хто зь Беларусаў цьвёрда перакананы, — піша газэта, — што (над беларускай тэрыторыяй) была 'пасеяна' хмара, якая апала дажджом перад тым як яна мелася зьмяніць кірунак і рухацца на ўсход.

— Лёнданская газэта The Daily Telegraph (28. IV) зьмясьціла вялікую фатаграфію з дэманстрацыі ў Гомелі. На адным плякаце чытаем: «Гомель — радыяаткыўнае пекла!»; на другім (з рысункам дзіцяці): «Мама! Я хачу жыць».

**— Падрабязную гісторыю чарнобыльскае бяды, выкарыстаўшы здымкі зь лёнданскае газэты «Сандэй Таймс» (гл. вышэй), расказаў Барыс Хургін у ньюёркскай газэце «Новое Русское Слово» (18. V).**

— Паводля брытанскага часапісу New Scientist (артыкул Веры Рыч пад заг. «Украінцы дамагаюцца перасьледу за Чарнобыль...»), да ліку «вінаватых» — калі не за выбух на Чарнобыльскай АЭС, дык за адсутнасьць перасьцярогі і мэдычнай прафілактыкі — належаць перш-наперш прэзыдэнт УССР Валянтына Шаўчэнка, былы першы сакратар КПБ Мікалай Сьлюнькоў, віцэ-прэзыдэнт Акадэміі мэдычных навук СССР Леанід Ільін і старшыня Дзяржкамітэту СССР па Гідрамэтэаралёгіі СССР Юры Ізраэль. Шмат хто перакананы, піша часапіс, што гэта Ю. Ізраэль адказны за «пасадку» ядзернага воблака на тэрыторыю ўсходняй Беларусі.

### ДАПАМОГА АД АМЭРЫКАНСКАЙ ФІРМЫ «АПДЖОН»

Амэрыканская фармацэўтычная фірма «Апджон» завезла у Менск сем аўтафургонаў прэпаратаў для ахвяраў Чарнобыля. 70% мэдыкамэнтаў былі перададзеныя у Гомельскай, Магілеўскай і Менскай вобласьцям, 20% — Украінскай ССР і 10% — Браншчыне. Мэдыкамэнты былі разьмеркаваныя суразьмерна радыяцыйнай забруджанасьці — 70% БССР, 20% УССР, 10% РСФСР.

*Чарнобыль*

### Я. САКАЛОЎ ПАКАЗВАЕ ПАЛЬЦАМ НА МАСКВУ

У дакладзе Бюро ЦК КПБ на XX-м пленуме ЦК кампартыі Беларусі, што адбыўся 23 чэрвеня сёлета, сказана:

«Вядома, дынаміка (пераходу рэспублікі на прынцыпы самакіраваньня і самафінансаваньня) магла быць і лепшай, калі-б над намі ня вісеў дамоклаў меч Чарнобыля. Цэнтар (г. зн. Масква — рэд. «Б-са») фактычна пакінуў Беларусь, яе народ сам-насам з чарнобыльскай бядой. Спачатку ўсё гэта выражалася ў засакрэчанасьці маштабаў і характару аварыі, у тым ліку і для кіраўніцтва рэспублікі, абласьцей, раёнаў. Пасьля неаднаразовых патрабаваньняў зьняць заслону сакрэтнасьці гэта ўрэшце было зроблена». («Зьвязда, 20. VI. 90)

Пад палітычным наступам Беларускага Народнага Фронту, пад шквалам абурэньня ў шырокіх колах грамадзтва першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў, суўдзельнік злачыннага замоўчваньня вынікаў чарнобыльскае катастрофы, пачынае апраўдваць сябе і сваіх бюракратаў — бач, гэта віна Масквы. Але ў рэспубліцы ўсё мацней гучаць галасы, каб справа хаваньня ад народу праўды пра запраўдны стан з чарнобыльскай радыяй была разгледжана парлямэнцкай камісіяй і судовай уладай. Гэткі разгляд, фактычна, пачаўся ўжо. Адзін дэпутат ВС БССР назваў яго «чарнобыльскім Нюрэнбэргам».

### «ЯН ГУС ЗЬ МЕНСКУ»

Пад гэткім загалоўкам заходня нямецкая газэта «Франкфуртэр Альгемайнэ Цайтунг» (7. VI) зьмясьціла артыкул (з фатаздымкам) пра Зянона Пазьняка, лідэра Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Пазьняк, піша газэта, кажа пра сябе, што ён заўсёды быў антыкамуністам і што ён змагаецца за незалежную Беларусь. Янам Гусам назваў Пазьняка Алесь Адамовіч — той самы, які даў афіцыйнаму Менску трапную мянушку — Вандэя.Ян Гус (1371-1415 гг.) — чэшскі рэлігійны рэфарматар, экскамунікаваны Каталіцкай Царквой і спалены.

Пра савецкую імпэрыю Пазьняк, цяпер таксама дэпутат Вярхоўнага Савету БССР, кажа, што яна не патрывае болш як пяць гадоў. Пазьняк дапушчае магчымасьць, што вызваленая Беларусь можа быць у канфэдэрацыі з Украінай і балцкімі дзяржавамі.

### *ЯФРЭМ САКАЛОЎ І КДБ*

Газэта New York City Tribune (12. VII), падаючы пра новы склад Палітбюро КПСС (пад заг. «Паўстаюць сумлевы, ці пашыранае Палітбюро прысьпешыць рэформу») піша пра прадстаўніка Беларусі ў найвышэйшым партыйным органе:

«Першы сакратар КПБ, 64-гадовы Яфрэм Сакалоў, чатыры гады таму, належаў да групы прогарбачоўцаў, якая была ў апазыцыі да беларускай фракцыі, што выступала ў сакавіку 1985 году супраць абраньня Гарбачова за партыйнага лідэра. Выглядае, што Я. Сакалоў супрацоўнічаў у мінулым з КДБ і ляяльна падтрымвае цэнтралізм і саюз з Масквой».

### *ВЯРЫГІ ЛЮДУ ТУТЭЙШАГА*

*(Рэплікі выбаршчыкаў)*

***Савет Народных дэпутатаў,***
***вох! — не шкадуеш ты людзей:***
***нам — да Чарнобыля дадатак —***
***цяпер дасланы... Дзямяньцей...***

Абагуліў і зарыфмаваў
**Вядзьмак Менскі**

**Мікалай Дземяньцей — цяперашні Старшыня Вярхоўнага Савету БССР.**

*Чарнобыль*

## АМЭРЫКА ДАПАМАГАЕ

### Канцэрт у ААН

У Клюбе расейскае кнігі пры Аб'еднаных Нацыях адбылося 16 чэрвеня сёлета ўшанаваньне ахвярадаўцаў у фонд «Дзеці Чарнобыля». Адбыўся з гэтай нагоды невялікі канцэрт беларускіх артыстаў і вучняў амэрыканскае сярэдняе школы з гораду Рамапо ў штаце Нью-Джэрзы. Беларуская місія пры ААН наладзіла прыняцьцё для ўдзельнікаў урачыстасьці й запрошаных гасьцей.

Васіль Сафранчук, генэральны падсакратар для палітычных справаў і справаў Рады Бясьпекі ААН, у ўступным слове адзначыў узаемазьвязанасьць нашай плянэты і сказаў, што Чарнобыльскі фонд дапамогі знайшоў шчодрае падтрыманьне з боку амэрыканскага бізнэсу і акадэмічных установаў. Ахвярадаўцам у Чарнобыльскі фонд былі перададзеныя граматы ўдзячнасьці, падпісаныя прадстаўнікамі місіяў СССР, БССР і УССР і старшынём Чарнобыльскага камітэту пры ААН.

Арсень Ваніцкі, старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі, у сваім выступленьні (праз перакладчыка) гаварыў пра «масты дружбы», да пракладаньня якіх выдатна спрычыніліся таксама вучні Рамапаўскай СШ, група якіх са сваім настаўнікам сп. Кернсам наведала СССР і Беларусь. Прамоўца заклікаў змагацца з чарнобыльскай бядою «ў духу беларускае традыцыі — талакой». У чарнобыльскай зоне на Беларусі, сказаў ён, цяпер жыве гэтулькі людзей, колькі загінула ў часе Другой сусьветнай вайны. Сп. Ваніцкі перадаў на рукі сп. Кернса ліст падзякі за амэрыканскую дапамогу чарнобыльцам, падпісаны Старшынём Вярхоўнага Савету БССР.

У канцэртнай праграме выступілі чатыры артысты зь Менску: трыё ў складзе Ўладзімера Турчанскага (гітара, скрыпка), Тацьцяны Паўлавай і Людмілы Сьмірновай (вакалісткі) ды гарманіст Аўген Бацяноўскі. Вельмі зладжана, лёгка й мілагучна трыё выканала колькі беларускіх вакальна-музычных нумароў ды па адной амэрыканскую, украінскую й расейскую песьні. Гарманіст Бацяноўскі прадэманстраваў віртуознасьць ігры на сваім інструмэнце.

Выступілі таксама дзьве вучаніцы Рамапаскай СШ з выдатнай ігрой на піяніна і віялянчэлі.

Хор Рамапаўскай школы і квінтэт дзяцей савецкіх дыпляматаў прасьпявалі па колькі песьняў, у тым ліку адну супольную пра дружбу людзей, што жывуць worlds apart (за сьветам адны ад адных).

Ад імя Фонду дапамогі дзецям Чарнобыля сп. Зянон Макіўскі паведаміў, што акцыя збору дапамогі дала добры вынік: было пераслана трыма самалётнымі рэйсамі 300 тонаў мэдыкамэнтаў і іншага. Настаўнік Рамапаўскай СШ Кернс сказаў, што вучні ягонай школы перадалі 32 пакеты з мэдычнымі інструмэнтамі, відэапрайгравальнікамі, цацкамі ды іншымі падарункамі для чарнобыльскіх дзяцей у шпіталёх. Пры гэтым была выказаная падзяка прадстаўніку вялікае амэрыканскае нафтакампаніі Эксан сп. Напэляна, які таксама быў на ўрачыстасьці.

На прыняцьці, наладжаным Беларускай місіяй пры ААН, госьці й артысты мелі нагоду пазнаёміцца, пагутарыць, абмяняцца думкамі й адрасамі.

На канцэрце й на прыцняцьці была група гасьцей зь Беларусі, якія канчалі свой колькітыднёвы побыт у Злучаных Штатах. Сярод іх былі Васіль Шаранговіч, рэктар тэатральна-мастацкага інстытуту ў Менску, Віктар Шадурскі, выкладчык БДУ, памочнік дырэктара хімічнага заводу ў Новаполацку Анатоль Пальцаў ды іншыя. Беларусам Нью-Ёрку, запрошаным на канцэрт, было вельмі прыемна сустрэцца з суродзічамі зь Беларусі ды пераканацца яшчэ раз, што паміж імі ня трэба будаваць «мастоў», бо гэтыя масты ніколі ў запраўднасьці ня былі зруйнаваныя, а толькі затуманеныя савецкай афіцыйнай прапагандай.

**Я. З.**

### ПАРУШЭНЬНЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА Ў ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЕ

Міжнародная Фэдэрацыя Гэльсынскага Пагадненьня для Правоў Чалавека, якая знаходзіцца ў Вене ды мае афіліяваныя групы ў 17 краінах, у тым ліку ў ЗША, правёўшы слуханьні ў Маскве, на якіх выступіла каля 60 сьветкаў зь 15 савецкіх рэспублік, сьцьвердзіла, між цэлага ліку іншых і гэткае парушэньне правоў чалавека:

«Людзям у Беларусі, якія жывуць недалёка ад месца ядзернае катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у 1986 годзе, не даюць магчымасьці высяліцца, а інфармацыя пра небясьпеку ад радыяцыі трымаецца ў сакрэце. Жыхары-ж, якія пакідаюць заражаную мясцовасьць, ня могуць знайсьці ў іншых месцах ані памешканьня, ані працы».

(Паводля газэтаў Los Angeles Times i Newsday, 5. VI. 90)

### *НАД МЕНСКАМ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ*

Паводля маскоўскае «Экспресс-хроники» («Новое Русское Слово», 11. VI. 90), у Менску ўвечары 31 травеня над будынкам выканкаму гарадзкой Рады, дзе адбывалася сэсія, нехта замяніў сьцяг БССР нацыянальным бел-чырвона-белым сьцягам. Праз 22 хвіліны міліцыянеры зьнялі нацыянальны сьцяг.

Два дні перад тым, 29-га травеня, на плошчы Леніна ля Дому ўраду, дзе аднавіліся паседжаньні Вярхоўнага Савету БССР, адбыўся мітынг, арганізаваны Беларускім Народным Фронтам. Сабралася каля 8 тыс. народу. Былі ўзьнятыя нацыянальныя сьцягі й лёзунгі, на адным зь якіх было выпісана: «У Расеі — Ельцын, а ў нас хто?» Прамоўцы дамагаліся адстаўкі абранага на другі тэрмін старшыні Вярхоўнага Савету БССР М. Дземянцея і роспуску цяперашняга ВС.

### КАНФЭРЭНЦЫЯ БНФ: ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ

30-га чэрвеня й 1-га ліпеня ў Менску адбылася людная канфэрэнцыя Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», на якой коратка пабылі таксама й сябры ньюёркскага танцавальнага ансамблю «Васілёк». Галоўным заданьнем канфэрэнцыі было прааналізаваць сучаснае палітычнае становішча ў Беларусі (даклад старшыні Сойму БНФ Зянона Пазьняка), выпрацаваць канцэпцыю дзяржаўнай незалежнасьці (дакладчыкі: Ю. Хадыка, Ю. Дракахруст і А. Галькевіч), разгледзець пытаньне аб дачыненьнях паміж БНФ і палітычнымі партыямі Беларусі (даклад В. Вячоркі) ды абмеркаваць арганізацыйныя пытаньні (даклад В. Івашкевіча).

Былі прынятыя рэзалюцыі.

## ФЭСТЫВАЛЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ-90» У АТАВЕ

### З чарнобыльскім матывам

Працягваючы традыцыю папярэдніх гадоў, 15-17 чэрвеня ў Атаве адбыўся міжнацыянальны фэстываль, прысьвечаны бацькаўшчынам 30 этнічных групаў Канады, у тым ліку й Беларусаў. У праграме фэстывалю — нацыянальныя павільёны, канцэрты народнага мастацтва і нацыянальныя кухні.

Кожная група падрыхтавала свой павільён — у беларускага павільёну, памаляваная на чорна, на якой пад загалоўкам «Чарнобыль — наш боль» была разьмешчаная інфармацыя пра наступствы ядзернай аварыі ў Беларусі. Інфармацыя была ў розных мовах. Раскладзеныя карты памагалі наведнікам даведацца, дзе знаходзіцца Беларусь і якія часткі краіны найбольш пацярпелі ад радыяцыі.




*Частка Беларускага павільлёну, прысьвечаная Ф. Скарыну і беларускаму народнаму мастацтву.*

Хоць тэмай фэстывалю была «Пісьменнасьць», беларускі павільлён меў дзьве тэмы: «Францішак Скарына» і «Чарнобыльская трагедыя ў Беларусі».

Былі выстаўленыя таксама прыклады беларускага народнага мастацтва: тканіны, вышыўка, інкрустацыя саломкай ды іншае. Асаблівую ўвагу прыцягвалі настольнік, вышыты На-



*«Чарнобыльская» сьцяна. Надпіс справа: «Палавіна тэрыторыі Беларусі забруджаная радыяцыяй і яшчэ ўсё знаходзяць новыя радыяактыўныя мясьціны».*

Частка скарынаўскай выстаўкі, пад загалоўкам «Першы друкар ува Ўсходняй Эўропе», знаёміла наведнікаў з жыцьцём і дзейнасьцяй ды прыкладамі друкаў і гравюраў Скарыны. Тут былі выстаўленыя таксама важнейшыя беларускія выданьні апошніх гадоў.

Чарнобыльскай трагедыі была прысьвечаная цэлая сьцяна беларуска-

дзяй Мароз з Чыкага, а таксама мастацкія вырабы Міколы Шуста зь Лёндану, што ў правінцыі Антарыё.

Фэстываль быў арганізаваны Атаўскай Радай Народнага Мастацтва. Кааардынавала беларусі ўдзел у фэстывалі сп-ня Івонка Сурвіла. Арганізатары шчыра дзякуюць спадарству Хрэноўскім з Манрэалю за тое, што ў сыботу прыехалі дапамагчы пры абслугоўваньні павільлёну.

**Я. В.**

## НОВАЯ ПАРТЫЯ

### Нацыянальна-дэмакратычная

Карэспандэнт ТАСС Уладзімер Глод перадаў 25 чэрвеня зь Менску наступная паведамленьне:

Адраджэньне беларускай нацыі, нацыянальнае сьведамасьці — галоўная мэта Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі. Устаноўчая канфэрэнцыя партыі закончылася ў нядзелю ў сталіцы рэспублікі — Менску. Дэлегаты заявілі аб сваім намеры дамагацца запраўднае палітычнае незалежнасьці Беларусі.

Адносна дачыненьняў з Саюзам, то тут спэктар думак быў шырокі: ад выхаду з СССР да стварэньня канфэдэрацыі. Адныя дэлегаты прапанавалі выйсьці з Савецкага Саюзу, а тады ўжо ўстанавіць раўнапраўныя дагаворныя дачыненьні ў палітыцы, эканоміцы, культуры. Іншыя выказваліся за канфэдэрацыю, у якую ўвайшлі-б балтыцкія рэспублікі, Беларусь і Ўкраіна. Трэйцыя выступалі за тое, каб заставацца ў СССР. Дакладней гэтыя пазыцыі вызначацца пры выпрацоўваньні праграмы новай партыі, якая тымчасам вызначае толькі агульныя кірункі дзейнасьці.

Пераважная бальшыня дэлегатаў устаноўчае канфэрэнцыі — прадстаўнікі творчых саюзаў Беларусі: пісьменнікі, мастакі, кінэматографісты.

**Міхась Кукабака**

# ПІСЬМЕНЬНІК СЬПЯШАЕЦЦА НА ПАСЕДЖАНЬНЕ...

Сустрэцца й пагутарыць са сваім земляком — пісьменьнікам Васілём Быкавам мне хацелася даўно. Гэткая ідэя ўзьнікла яшчэ ў лягеры, калі я прачытаў адно зь ягоных выступленьняў у друку. Яно датычыла праблемаў роднае мовы і наагул беларускае культуры. Гэтая тэма не магла ня вылікаць водгуку ў маёй душы.

Бо-ж сваім часам за подобныя выказваньні мяне абвінавацілі ў тым, што я «ганьбаваў нацыянальную палітыку савецкае дзяржавы».

У выніку — гады лягероў.



*Сустрэць «Васілька» ў Маскве прыйшоў Міхась Кукабака. Ля яго стаяць (зьлева): Галіна Бахар і Вера Запруднік, а справа — Анатоль Абрамчык з Таварыства «Радзіма», на запросіны якога «Васілёк» прыехаў.*

Пазьней сустракаліся і іншыя публікацыі Васіля Быкава з асуджэньнем сталінскіх рэпрэсіяў у Беларусі, крытычныя выступленьні супраць сёньняшніх «сілаў тармажэньня» і г.д.

Хацелася верыць, што і сярод беларускае пісьменьніцкае эліты зьявіліся незалежныя свабодамысныя людзі. Аднак, былі й сумляваньні.

Пасьля звальненьня я адшукаў хатні тэлефон пісьменьніка і пазваніў яму з Масквы.

«Добры дзень, Васіль Уладзімеравіч! Магчыма, мая просьба здасца нясьціплай, але мне вельмі хацелася-б з Вамі сустрэцца і пагутарыць. Маё прозьвішча — Кукабака — наўрад ці Вам аб чымсьці гаворыць, і ўсё-ж спадзяюся, што і для Вас наша сустрэча будзе неабыякавай.

— Я чуў пра Вас, — прагучэў стрыманы адказ.

— Калі Вы нікуды не выяжджаеце, то праз пару дзён я буду ў Менску.

— Так, я з тыдзень прабуду тут, — адказаў пісьменьнік.

— Ну й добра, значыцца, дамовіліся. Да пабачаньня, Васіль Уладзімеравіч!

Трэйцяга студзеня (1989 г.) я ўжо быў у Менску.

— Добры дзень! Гэта Міхал Кукабака Вас турбуе. Я званю з вакзалу. Калі й дзе Вам выгадна будзе са мной сустрэцца?

— Бяз чверці трэйцяя чакайце мяне ў вэстыбюлі Дому літаратара. Гэта на вуліцы Фрунзэ 5.

Да сустрэчы заставалася яшчэ больш за дзьве гадзіны. Пабадзяўся па горадзе. Недзе за гадзіну да ўмоўленага тэрміну я ўжо быў у Доме літаратара. Вытлумачыў швайцару мэту свайго прабываньня ў вэстыбюлі. Ён паставіўся да гэтага зусім дабразычліва. Прысеў я недалёка ад яго, назіраю. Часта ўваходзілі розныя людзі. У асноўным пажылога веку. Напэўна, пісьменьнікі.

З аднымі швайцар абменьваўся лёгкім кіўком, зь іншымі рытуал вітаньня быў выразна разнастайнейшы. З суўдзельнай інтанацыяй задаваліся якіясьці пытаньні. Відаць, аб здароўі гаспадара, аб сям'і, аб нядаўна мінулым сьвяце.

Раптам ён жвава падскочыў, нейк увесь падцягнуўся: адлюстраваў на твары крайнюю пачцівасьць, калі не сказаць больш, і хуткай дробнай хадой накіраваўся да дзьвярэй.

Уваходзіў сярэдняга росту, нічым някідкі пажылы чалавек. Швайцар стаяў перад ім у позе мамэнтальнай гатовасьці аказаць любую паслугу і штосьці гаварыў яму прыязным і ціхім голасам. Да мяне толькі далятала — Васіль Уладзімеравіч... Васіль Уладзімеравіч...»

Я таксама падняўся. Пісьменьнік падыйшоў да мяне. Прывіталіся. Даведаўшыся ад швайцара, дзе ёсьць вольны пакой, ён правёў мяне туды. Уселіся. Вычэквальна маўчалі.

— Васіль Уладзімеравіч, ужо шмат гадоў я блізу ня чытаю савецкае літаратуры. Ваша імя мне сталася ведамым з Вашых выступленьняў у абарону беларускае мовы, культуры...

Падыходзілі якіясьці людзі, абменьваліся зь ім прывітаньнямі, гаварылі аб нейкіх справах. Пыталіся, ці будзе ён на якіхсьці сходах, сустрэчах. Я маўкліва сядзеў збоку і назіраў.

Вобраз пісьменьніка паступова аддаляўся, прыцямняўся ў маёй сьведамасьці. Ягонае месца засланяў Лаўрэат Ленінскае прэміі, Гэрой сацыялістычнай працы.

— Вы, здаецца, былі ў зьняволеньні? — ветла пацікавіўся ён.

— Я ня проста быў у зьняволеньні. Я шмат гадоў правёў у лягерох як палітвязень, засуджаны паводля яўна сфабрыкаванага абвінавачаньня. У лягеры і цяпер яшчэ трымаюць шмат па сфабрыкаваных справах...

Ізноў зайшлі нейкія людзі, пачалі раскладацца за сталом са сваймі паперамі.

— Вы будзеце прысутнічаць? — аб чымсьці спыталі яны ў Быкава.

— Але, крышку пазьней, — адказаў Лаўрэат.

Мы падняліся, вызваляючы месца. Пашукалі іншае памешканьне. Было змрочна.

— Можа Вы цяпер заняты, няма часу. Тады як-небудзь іншым разам? — запытаўся я няўпэўнена. Ён мяльком зірнуў на гадзіньнік і ветліва адказаў: «Чаму-ж, пасьпеем».

Я папрасіў уключыць сьвятло.

Старыя сумлевы, пытаньні, на якія ў лягеры не знаходзіў адказу, настырліва нагадвалі аб сабе.

**Цяпер стала модай бічаваць Сталіна, крытыкаваць «застойны пэрыяд». Асуджэньне сталінізму, як правіла, суправаджаецца канкрэтнымі фактамі — лікам расстраляных, адседзеўшых даўгія гады.**

На гэтым фоне дзіўнай выглядае крытыка «застойных» гадоў. Аб ахвярах сарамліва маўчаць. А калі й гавораць, дык неяк нявыразна, ананімна. Як быццам-бы ня было псыхушак, куды хавалі тых, хто пратэставаў супраць навязванае ўсім «аднагалоснасьці». Як быццам ня трымалі людзей па шмат гадоў у турмах і лягерох за іхныя пераканьні, за праваабаронную дзейнасьць.

Праўда, цяпер за іншадумства не расстрэльвалі паводля судовага прыгавору, як за Сталінам. Але і ў часы «застою» іншадумцы гінулі ў выніку судовае расправы. І цяпер шмат хто сядзіць, адгароджаны ад сьвету сьцяной безгалоснасьці.

Мы ведаем, дзяржаўны прэс гвалту змушаў ня тысячы — мільёны людзей жыць хлусьнёй.

Васіль Быкаў ня быў выключэньнем сярод іх. Ягоны подпіс стаіць сярод тых, хто памагаў гэтай дзяржаве выгнаць А. І. Салжаніцына з краіны. Цяпер духовы ўціск крыху паслабеў. І для шмат каго настаў час пакаяньня за мінулае маладушша. Зьявілася жаданьне ачысьціцца ад духовага балота, што накапілася за гэтыя даўгія гады. Балазе свабода сёньня — ужо ня гэтулькі аба-

*(Працяг на 10-й б.)*

***Алесь Васілеўскі***

# БЫЛІ І НЕПАКОРЛІВЫЯ

**(Камэнтар да артыкулу Васіля Быкава «Хлеб і годнасьць»)**

«Апошнім часам Васіль Быкаў выступае ў друку з войстрымі публіцыстычнымі матар'яламі», — піша маскоўская «Литературная газета» (27. VI. 90), друкуючы артыкул Быкава пад заг. «Хлеб і годнасьць». І запраўды, цяжка знайсьці падобнага аўтара на Беларусі, слова якога чыталася-б гэткай шырокай аўдыторыяй ды каму чытач так верыў-бы, як Васілю Быкаву. Нездарма, апрача шматлікіх афіцыйных тытулаў, Быкаў мае гонар зваццa «сумленьнем нацыі». І гэты тытул, які далі пісьменіку ягоныя нязьлічоныя чытачы, не заплямлены ані літаратурнай каньюктурай, ані выгодамі, якія прынесла іншым літаратарам на Беларусі партыйная кар'ера. Ні першага, ні другога ў творчасьці і ў жыцьці Быкава ня было. Сваю «перабудову» Быкаў пачаў больш як чвэрць стагодзьдзя таму, з прычыны чаго і торчы шлях ягоны быў засланы калючкамі, а не дыванамі. Ды шмат гэтых церняў трапляецца і сёньня на шляху Васіля Быкава. Чаго аднаго вартыя публікацыі з крытыкай пісьменьніка ў менскім «Политическом собеседнике». Вандэеўцы крытыкуюць Быкава, ня вельмі думаючы аб выбары прыметнікаў, бірак і выразаў. Улада ведае, па кім і як біць.

Пра гэтую вось уладу і разважае Васіль Быкаў у «Літаратурцы» ў артыкуле «Хлеб і годнасьць». «Сёньня ў верхніх эшалёнах улады, — піша ён, — аб тым толькі й чуеш, што пазьнікалі г. зв. «высокія ідэялы». І гэта зразумела, зазначае Быкаў. «Калі са старонак «Политического собеседника» чуеш аб падобным, дык цяжка адмовіцца ад думкі, што камусьці, відаць, ёсьць што губляць, інакш гэтак-бы ня крычалі ў друку. І ў першую чаргу гэтаму камусьці не хацелася-б згубіць яе вялікасьць уладу над усімі і ўсім», — піша Быкаў.

Прагнасьць кіраўнікоў да ўлады, імкненьні ўтрымаць яе ў сваіх руках за ўсякую цану, вось тая зараза, на якую зварачае ўвагу Васіль Быкаў у сваім артыкуле ў «Літаратурцы». Праўда, пры ўладзе могуць быць людзі сумленныя і працавітыя, добрыя і разумныя, зазначае Быкаў, але могуць быць і толькі пакорлівыя. Нашай-жа ўладзе, піша Быкаў, засталася толькі пакорлівасьць. Быць пакорлівым — вось асаблівасьць характару бюракрата. І калі сярод нас, кажа Быкаў, знойдзецца сёньня гэткі вучоны, пісьменьнік, мастак, які засьцярог сябе ад спакусаў пакорлівасьці, дык перад гэткай асобай трэба здымаць шапку. А калі ўзяць на ўвагу, што Беларусы — наагул людзі рахманыя, зазначае Быкаў, дык ня трэба вельмі зьдзіўляцца, чаму наш народ гэтак пакорна пераносіў усе экспэрымэнты ўлады, у тым ліку й апошні — экспэрымэнт Чарнобыля.

Сёньня мы ў тупіку, піша Васіль Быкаў, у тупіку літаральна ўсё: эканоміка, культура, экалёгія, чалавек. Бездань, перад якой апынулася нацыя, павінна была-б узбунтаваць нас, як-бы хоча сказаць Васіль Быкаў. Але народ наш пакорлівы, слаба варушыцца, быццам-бы выпраўдваючы мянушку, якую даў рэспубліцы Алесь Адамовіч — «перабудовачная Вандэя». І ёсьць пэўная гістарычная пасьлядоўнасьць у тым, чаму мы гэткія пасыўныя, зазначае Быкаў. І дадае: «калі мы ішлі да бездані з бадзёрымі песьнямі, аптымізмам, якім натхняла народ партыя, дык быццам-бы ніхто і ня прыкмячаў куды ідзём, ня біў трывогу, не пратэставаў, не спаліў сябе на плошчы, як той славацкі рабочы, не пасварыўся з начальствам.»

Што-ж, магчыма, Быкаў і мае рацыю: у асноўным народ пасыўна падпарадкоўваўся ўладзе; магчыма, у навуковых, літаратурных колах ніхто не пасварыўся з начальствам, не запратэстваў і г. д. Але ці-ж так пасыўна паводзілі сябе абсалютна ўсе? Мне не хацелася-б выступаць нават з самай лёгкай крытыкай на адрас Васіля Быкава. Але ня можа быць, каб празаік ня чуў пра гэткага чалавека, як Міхал Кукабака. Просты бабруйскі рабочы ў 1968 годзе выступіў з адкрытым асуджэньнем савецкае акупацыі Чэхаславаччыны, за што паплаціўся амаль 20 гадамі псыхушак, турмаў, лягероў. Выходзіць, былі людзі, якія, бачачы, што краіна ідзе ў бездань, мелі сьмеласьць пратэставаць. Сёньня Міхал Кукабака жыве ў Маскве, ня маючы ні кватэры, ні працы, ні сродкаў на існаваньне. Перабудова толькі й зрабіла для яго, што вызваліла зь лягеру, але паўнацэнна вярнуць яго грамадзтву пакуль што ня здолела.

Васіль Быкаў, разважаючы пра тэхналёгію ўлады ў «Литературной газете», выказвае спадзяваньне, што толькі сьведамая нацыянальна інтэлігенцыя здолее пазбавіць пакорлівасьці чыноўнікаў улады. Спадзяваньне добрае. Дай Божа! Але нам, думаецца, што гэтая мэта дасягнецца тым хутчэй, чым шырэйшы антыкансэрватыўны фронт будзе ў шырокіх колах грамадзтва. Вось чаму людзям трэба расказваць як мага дэтальней — а найлепш гэта змогуць зрабіць пісьменьнікі — пра супрацоў каманднa-адміністрацыйнай сыстэме з боку гэткіх падзьвіжнікаў і пакутнікаў, як Міхал Кукабака і да яго падобных, якія былі і сярод Беларусаў.

## ПЕРАВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ КАНГР. Ф. АНУНЦЫЁ



*Беларускія прадстаўнікі з кангрэсмэнам Фрэнкам Анунцыё (2-гі справа) і альдэрманам Раманам Пуцінскім (2-гі зьлева)*

У нядзелю 10-га чэрвеня адбылося адчыненьне выбарчай кватэры кангрэсмэна Фрэнка Анунцыё, вялікага прыяцеля ўсіх паняволеных народаў. У урачыстасьці адчыненьня ўзялі ўдзел ад Беларусаў др. Вітаўт Рамук з жонкай. У ўдэкараваным памешканьні на 5300 Ўэст Лёрэнс Авэню раздавалася перадвыбарчая літаратура. Разглядаючы розныя ўзнагароды і ганаровыя граматы, павывешаныя на сьценах выбарчай кватэры, можна было пабачыць, наколькі кангр. Анунцыё папулярны сярод этнічных групаў Чыкага. Паміж узнагародаў, дадзеных кангрэсмэну, красавалася і плякетка прызнаньня ад Беларускага Каардынацыйнага Камітэту, уручаная сп. Анунцыё ў 1982 годзе.

Сп. Анунцыё вітаў усіх гасьцей на пляцы каля будынку выбарчае кватэры. Непадалёк пад шатром на пляцоўцы грала аркестра, выступалі розныя прамоўцы, улучна з сэнатарам Полам Сайманам. Госьці мелі нагоду сфатаграфавацца з кандыдатам, а таксама пачаставацца сасіскамі, печывам, халоднымі напіткамі.

Кангрэсмэн Анунцыё спадзяецца быць ізноў перавыбраным, 14-ты раз ужо, а 10-ты раз у цяперашняй 11-й выбарчай акрузе.

**Вера Рамук**

## АСАМБЛЕЯ КАНАДЗКАЙ ЭТНАКУЛЬТУРНАЙ РАДЫ

26-28 травеня адбылася ў Атаве штодвухгадовая агульная асамблея Канадзкай Этнакультурнай Рады (КЭР). Заснаваная ў 1980 годзе, КЭР налічвае сяньня 38 агульнаканадзкіх арганізацыяў, якія рэпрэзэнтуюць больш за 2000 паасобных арганізацыяў з усяе Канады. Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады, што рэпрэзэнтуе шэсьць беларускіх арганізацыяў, належыць да КЭР ад самага пачатку існаваньня Рады. Прадстаўнікамі ад Беларусаў на асамблеі былі: др. Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня ККБК, і сп-чна Галена Хрэноўская, сяброўка Згуртаваньня Беларусаў Правінцыі Квэбэк.

Сёлетняя агульная асамблея адзначала 10-я ўгодкі існаваньня свае арганізацыі. Пачалася яна зьведваньнем Канадзкага Музэю Цывілізацыі. Увечары адбылося пленарнае паседжаньне, на якім папярэдні старшыня КЭР сп. Джордж Корн (чэскага паходжаньня) расказаў пра дзейнасьць КЭР за праміналыя 10 гадоў, а цяперашні старшыня сп. Люіз Чан (кітайскага паходжаньня) гаварыў аб плянах на наступныя 10 гадоў. На тэму шматкультурнай рэальнасьці Канады прамаўлялі: прадстаўнікі нямецкай і ўкраінскай грамадзкасьці Канады. Старшыня ККБК др. Раіса Жук-Грышкевіч гаварыла ў сваім выступленьні аб трывогах і клопатах беларускай грамадзкасьці Канады ў сувязі з трагічнай сытуацыяй у Беларусі ў выніку чарнобыльскай аварыі.

Зьместам далейшых нарадаў былі справаздачы, даўгія дыскусіі на тэму палітыкі шматкультуралізму, прыняцьце раду рэзалюцыяў ды выбары новай управы.

Увечары адбыўся юбілейны банкет з мастацкай праграмай і прамовай судзьдзі Найвышэйшага Суду Канады сп. Джона Супінкі (украінскага паходжаньня).

Удзельнікі асамблеі мелі нагоду сустрэцца ў Парляманьце з прадстаўнікамі партыяў Кансэрватыўнае, Лібэральнае і Новых Дэмакратаў.

**Р. Жук-Грышкевіч**

## УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў ТАРОНТА

Як кожны год, сябры і прыхільнікі Згуртаваньня Беларусаў Канады адзначылі сёлета вялікае беларускае нацыянальнае сьвята — абвешчаньне Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25-га сакавіка 1918 году. Сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 18-га сакавіка, пачаўшыся ўрачыстай багаслужбай у прыгожа аднoўленай царкве сьв. Кірылы Тураўскага. Багаслужба ў беларускай мове і патрыятычная казань Найпачасьнейшага Архіепіскапа Мікалая далі прысутным, якімі была запоўненая царква, сьвяточны настрой. Пасьля ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру адбыўся бынкет-акадэмія. Акадэміяй кіраваў старшыня ЗБК сп. Мікола Ганько. Было прачытана шмат прывітаньняў ад беларускіх арганізацыяў і ўстановаў. Ад імя Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча прывітаў прысутных ягоны першы заступнік др. Барыс Рагуля. Зьмястоўны рэфэрат на тэму дня прачытала др. Раіса Жук- Грышкевіч.

У нядзелю 25-га сакавіка, як і кожнага году, пры ратушы гораду Таронта быў узьняты бел-чырвона-белы сьцяг, дзякуючы стараньням Беларускага Каардынацыйнага Камітэту. Належыцца падзяка гаспадыням, асабліва сп-ні Марыі Ганько, за падрыхтаваньне абеду, сп. А. Нікановічу і яго супрацоўнікам за парадак у царкве і будынку БРГЦ ды ня менш усім блізкім і далейшым сябром і сяброўкам за шматлікі ўдзел у сьвяткаваньні.

**М. Г.**

*Прэзыдыюм Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, сябры галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, рэдкалегія газэты «Беларус», управа Фундацыі імя П. Крэчэўскага сардэчна вітаюць*

**сп. АНТОНА ШУКЕЛАЙЦЯ**

*шматгадовага й няўтомнага дзеяча й працаўніка на Беларускай палітычнай, грамадзкай і культурнай ніве*

**ЗЬ 75-МІ ЎГОДКАМІ ЖЫЦЬЦЯ**

*што споўніліся 19 ліпеня 1990 году, ды шчыра зычаць яму добрага здароўя і ўсякае памыснасьці як у асабістым, гэтак і грамадзкім пляне на МНОГАЯ ЛЕТА!*

## ПРА ШТО ГАВАРЫЦЬ ЗА «КРУГЛЫМ СТАЛОМ» У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ?

Тэма «круглага стала» на 19-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі (сыбота, 1.IX) павінна быць як мага больш канкрэтнай і практычнай.

Скончылася халодная вайна. Разьвейваецца, як чадны дым, ілюзіі камунізму. На Беларусі памалу пачынаецца загойваньне ранаў «зьліваньня нацыяў», г.зн. выкарэньваньня беларушчыны. Друк рэспублікі, афіцыйны і «нефармальны», піша пра Данчыка, пра «Васілька», пра патрэбу кансалідацыі ўсіх Беларусаў. Эміграны наведваюць Бацькаўшчыну, суродзічы з Бацькаўшчыны прыяжджаюць на Захад. Усім незагойным болем баліць Чарнобыль.

Што на сёньняшні дзень найважнейшае ў беларускіх заходня-ўсходніх кантактах? Пра што трэба найбольш турбавацца і дбаць?

Амэрыканцы кажуць: час — гэта грошы. Дарагі час на кліўлендзкай сустрэчы трэба будзе выкарыстаць як мага эфэктыўней.

У кантактах і гутарках, якія апошнімі месяцамі сябром рэдакцыі «Беларуса» даводзілася мець са сваімі суродзічамі зь Беларусі, на першым месцы стаяла пытаньне: **ЯК?** Як заснаваць супольнае амэрыканска-беларускае прадпрыёмства? Як наладзіць у Злучаных Штатах і Канадзе продаж прадукцыі або паслугаў таго ці іншага менскага або горадзенскага каапэратыву? Як паспрыяць прыезду ў ЗША дэлегацыі беларускіх парлямэнтарыяў, каб яны маглі азнаёміцца з функцыянаваньнем дэмакратыі? Як дапамагчы амэрыканска-беларускаму і канадзка-беларускаму абмену студэнтамі? А найбольш — як, чым памагаць радыявацы людзей ад чарнобыльскае радыяцыі? Пра ўсё гэта, відаць, і давядзецца гаварыць за «круглым сталом» у Кліўленьдзе.

Часу на абмеркаваньне падобных пытаньняў будзе замала, выказвацца давядзецца прадумана і сьцісла, каб даць магчымасьць іншаму таксама сказаць сваё слова.

А дзеля гэтага вельмі важна, каб кожны з будучых удзельнікаў «круглага стала» прыйшоў належна прыгатаваны да яго, пажадана зь як мага больш канкрэтнымі інфармацыяй і прапановамі, а там, дзе можна — і зь пісьмовым або друкаваным матар'ялам у руках.

## ХАРЧОВЫЯ КАРТКІ Ў МЕНСКУ

Паводле газэты «Советская Белоруссия» (13. VI), у Менску ад 7 чэрвеня сёлета ўведзеныя талоны на гарэлку, «а заадно на муку, крупу, макаронныя выбраы. «На чэрвеньскія картачкі, — піша газэта, — гараджанін купіць 1 кг. мукі, 1 кг. крупы і 0,5 кг. макаронных вырабаў». Карэспандэнт «СБ» І. Філіпенка піша, што пэньсіянер В. Невяроўскі пытаўся ў яго, ці можна пракармiцца, маючы на дзень 33 грамы крупы і 16 грамаў макаронаў. Дзеля параўнаньня Філіпенка падаў, што норма харачаваньня савецкага салдата ўключае 125 грамаў крупы ў дзень, а вязьня папрацоўна-працоўных лягероў — 110 грамаў.

«Карміцца з Камароўскага рынку, — піша Філіпенка, — можа дазволіць сабе ня шмат хто. А ў магазынах — чэргі па мяса, ня бачаныя раней чэргі па каапэратыўную каўбасу. Ня цяжка дагадацца, што наступным крокам айцоў гораду будзе ўвод талонаў на мясныя прадукты».

*БАЗА і ЗБК ветліва запрашаюць усіх на*

## 19-Ю СУСТРЭЧУ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

**Кліўленд, Агаё, 1-3 верасьня 1990 г.**

ПРАГРАМА

**Сыбота, 1 верасьня:**

- 7-12 — Прыезд, разьмеркаваньне гасьцей.
- 12:00 — Адкрыцьцё, узьняцьце сьцягоў.
- 1-3 — Полудзень. Нарады (моладзі, вэтэранаў, БАЗА і інш.). Спорт.
- 3-5 — «Круглы стол» (кароткі даклад, выступленьні).
- 5-7 — Вячэра.
- 7-9 — Канцэрт.
- 9-1 — Вечарына.

**Нядзеля, 2 верасьня:**

- 9:30 — Багаслужбы.
- 12-1 — Высьвячэньне новага будынку.
- 1-4 — Банкет.
- 4-6 — Канцэрт.
- 6-8 — Вячэра.
- 9-1 — Вечарына.

**Панядзелак, 3 верасьня:**

- 7-9 — Сьнеданьне.
- 9 — Нарады.

**Нумары тэлефонаў:**

(216) 781-7231 (Я. Ханенка, старш. адзьдз. БАЗА)
238-3842 («Полацак», К. Калоша, С. Карніловіч)
749-5756 (царква Жыр. Божай Маці)

## 44-ТЫ ЗЬЕЗД ЗБВБ

23-га чэрвеня сёлета ў Лендане адбыўся 44-ты агульны гадавы зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Праца зьезду праходзіла ў залі Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Адчыніў зьезд старшыня ЗБВБ сп. Я. Міхалюк, прывітаўшы ўдзельнікаў і гасьцей зь Беларусі. Тэлефанічна перадаў прывітаньні зьезду а. Я. Пякарскі і выказаў жаль, што з прычыны хваробы ня змог прысутнічаць.

З прывітальным словам выступіў а. А. Надсон, коратка прыпомніў І-шы зьезд ЗБВБ 44 гады таму, яго мэты і цяперашняе набліжаньне да гэтай мэты — адраджэньня Беларусі. Падаў да ведама навейшыя прэсавыя паведамленьні пра абуджэньне нашага Народу. Айцец Надсон заклікаў да большай ахвярнасьці ў памаганьні ахвярам чарнобыльскага няшчасьця.

У мандатную камісію былі абраныя сп. сп. Хв. Кажаневіч, С. Буткевіч і М. Яськевіч, у прэзыдыюм — М. Швэдзюк (старшыня), Я. Сяўковіч і П. Грыгальчык (сакратары).

Была ўшанаваная памяць нядаўна памерлага сябры ЗБВБ Янкі Мазуры.

Справаздачныя даклады паказалі, што дзейнасьць Згуртаваньня была адпаведна ведзеная як унутры, так і навонкі. ЗБВБ прадстаўлена ў Групе Эўрапейскае Сувязі, у якую ўваходзяць прадстаўніцтвы 14 паняволеных Масквой краінаў, і ў Міжнароднай Амністыі. Эканамічны стан Згуртаваньня значна палепшаў, гарантуючы гэтым дзейнасьць арганізацыі на далейшыя гады.

Прызнаўшы абсалютарным уступаючай управе, зьезд абраў новую галоўную ўправу ў складзе: Я. Міхалюк — старшыня, А. Здановіч — заступнік старшыні й сакратар, П. Асіповіч — скарбнік і М. Сенька — сябра.

У наглядную раду й сяброўскі суд увайшлі: Хв. Кажаневіч, М. Яськевіч і Я. Сяўковіч.

Цікавым для зьезду было выступленьне сп. М. Баяроўскага, сябры даверу ў гор. Бірмінгаме, дзе ён і некалькі асобаў праводзяць збор грошай для закупу мэдыцынскіх прыладаў, якія ён сам забавязваецца з дапамогай яшчэ пары чалавек, у тым ліку а. Надсона, даставіць у Беларусь. Збор грошай сп. М. Баяроўскі праводзіць сярод ангельскага грамадзтва, у якім ён мае прыязныя сувязі, і цяпер гэта дае добрыя вынікі. Сабрана ўжо больш за 2000 фунтаў і ахвяры паступаюць далей. Адзін Ангелец ахвяраваў для перавозу прыладаў свой грузавічок, якім М. Баяроўскі і паедзе ў Беларусь. Зьезд выказаў яму падзяку.

А. Здановіч, выказваючы ўдзячнасьць арганізатарам дапамогі «чарнобыльскай», зьвярнуў увагу прысутных на патрэбу дапамогі і беларускаму нацыянальнаму Адраджэньню. Настаў час вялікага выпрабаваньня там на Беларусі, і мы мусім быць актыўнымі.

Адсьпяваньнем нацыянальнага гімну зьезд закончыў працу.

Адбылася супольная вячэра, якую блаславіў малітвай прапаведнік-евангеліст Пётра Грыгальчык. Каталіцкія айцы маліліся ў капліцы. Вячэру старанна падрыхтавала сп-ня Алёна Міхалюк. Сп. Міхалюк вітаў прысутных Хведара Дзімітрава з 89-мі ўгодкамі жыцьця, і Аляксандра Лашука з 81-мі.

**А. Здановіч**

## ІНТЭРВ'Ю САКРАТА ЯНОВІЧА

Польскі друк зьвяртае ўсё больш увагі на дзейнасьць заснаванага сёлета Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня, кадыдаты якога ў сёлетніх мясцовых выбарах здабылі перамогу ў 10 гмінах усходняе Беласточчыны. Тыднёвік "Gazeta i nowoczesność", орган «Салідарнасьці», зьмясьціў у нумары за 10 чэрвеня сёлета вялікае інтэрв'ю зь лідэрам БДА Сакратам Яновічам. Інтэрв'ю суправеджанае дэвізам: «Толькі рыбы голасу ня маюць». Інтэрв'ю мае характар палемікі, а то й допыту Сакрата Янновіча крытычна настаўленым карэспандэнтам газэты Мацеем Кладзікам. У канцы матар'ялу рэдакцыя зазначыла: «Гэтае інтэрв'ю найлепш ілюструе ступень цяжкасьці ў абмяркоўваньні гэтай цэлай праблемы. Можа з віны нашага аўтара — і надалей ня ведаем, як лідэр Беларусаў хацеў-бы разьвіваць беларускую культуру, асьвету, якая становіць найбольшы клопат Беларусі, назбаўленай падручнікаў і настаўнікаў».

Гутарку з Сакратам Яновічам зьмясьціла таксама газэта "Kurier poranny" (15-17. VI) пад заг. «Беларусь асуджаная на сувэрэннасьць» (словы С. Яновіча). У гутарцы С. Яновіч расказвае пра апошнія падзеі на Беларусі і рост нацыянальнае сьведамасьці ды палітычную радыкалізацыю беларускага грамадзтва.

Газэта «Салідарнасьці» і ейныя чытачы мелі-б куды лепшы адказ на пытаньне, «як лідэр Беларусаў хацеў-бы разьвіваць беларускую культуру, асьвету», калі-б зьмяшчала на сваіх старонках больш інфармацыі аб тых падзеях, якія адбываюцца цяпер на Беларусі — інфармацыі лёгка даступнай. Зьмяшчаньне такіх матар'ялаў памагала-б ня толькі польскаму грамадзтву пазбыцца стэрэатыпаў пра свайго ўсходняга суседа, але й было-б знакам дабразычлівасьці з боку Палякоў, гэтак патрэбнае для наладжаньня добрасуседзкіх дачыненьняў.

### ЗГАРЭЛА ЦАРКВА НА СЬВ. ГАРЫ ГРАБАРЦЫ

Варшаўскае радыё падало 13-га ліпеня, што на Сьв. гары Грабарцы згарэла праваслаўная царква, пабудаваная ў XVII-м стагодзьдзі. Перад падпаленьнем царква была аграбленая.

Апошнім часам на Беласточчыне пачасьціліся выпадкі антыправаслаўнага вандалізму і антыбеларускіх выпадаў з боку мясцовых польскіх шавіністаў.

## ЗЬЕЗД БЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСОВАГА КАМІТЭТУ

У сыботу 2 чэрвеня 1990 г. ў Саўт-Рывэры ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры адбыўся 11-ы справаздачна-перавыбарны зьезд Беларускага Кангрэсовага Камітэту (БКК). Адчыніў яго заступнік старшыні сп. Віталі Цярпіцкі (старшыня Камітэту інж. Іван Касяк памёр 13. III. 1989 г.). У прэзыдыюм зьезду былі выбраныя сп. сп. К. Мерляк — старшыня, М. Сенька і В. Шчэцька — сакратары. Мінутай цішы была ўшанаваная памяць адыйшоўшых кіраўнікоў БКК. Сп. Цярпіцкі прачытаў справаздачу за апошнія восем год, адзначыў вялікую праробленую працу як цэлай управы, гэтак і паасобных сяброў, падкрэсьліў таксама практычную партэбу гэтай арганізацыі як у ЗША, гэтак і па-за межамі ды на родных землях. Заклікаў будучую ўправу, як і паасобных сяброў арганізацыяў да большага ўдзелу ў працы, у рэпрэзэнтацыі навонкі.

Сп. Л. Высоцкі прачытаў фінансавую справаздачу.

Пасьля кароткіх дыскусіяў над справаздачамі ўступаючай управе прызналі абсалюторыюм з падзякай. Было пастаноўлена таксама выслаць ліст прызнаньня й падзякі сп-ні Хрыстыне Касяк, жонцы нябожчыка інж. І. Касяка.

У новую ўправу былі абраныя: Расьціслаў Завістовіч — старшыня, Віталі Цярпіцкі — 1-шы заступнік старшыні, Кастусь Мерляк — 2-гі заст. старшыні, Міхась Бахар — 3-ці заст. старшыні, Міхась Сенька — сакратар, Ірэна Рагалевіч-Дутко — заст. старшыні, культурны рэфэрэнт, Леў Высоцкі — скарбнік.

У прынятай рэзалюцыі выказанае асуджэньне дэнацыяналізацыйнае палітыкі, праводжанае ўладамі БССР, а таксама праступнага замоўчаньня маскоўскімі сатрапамі і іх услужлівымі беларускімі рэнэгатамі памераў чарнобыльскай радыяцыі. «Са свайго боку, — сказана ў рэзалюцыі, — мы будзем старацца, у меру магчымасьцяў, падтрымліваць БНФ "Адраджэньне" і іншыя патрыятычныя арганізацыі на Беларусі, дапамагчы ахвярам Чарнобыля ў форме мэдыкамэнтаў, мэдычных прыладаў і іншым».

Была прынятая пастанова ўзяць удзел у сустрэчы Беларусаў у Клііўленьдзе (1-3. IX. 90). Сябры з Саўт-Рывэру выказалі жаданьне запрасіць дэлегацыю зь Беларусі (ці групу артыстаў) наведаць іх у Саўт-Рывэры.

На заканчэньне працы зьезду быў адсьпяваны беларускі нацыянальны гімн.

**В. Ш.**

### «МАГУТНЫ БОЖА» Ў «ЧЫРВОНАЙ ЗЬМЕНЕ»

Газэта «Чырвоная зьмена», орган ЦК камсамолу Беларусі, у сваім музычным выпуску «Нотны аркуш» (рэдактар — Віталь Мартыненка) зьмясьціла малітву — словы і ноты — «Магутны Божа» (словы Н. Арсеньневай, музыка М. Равенскага). У тым-жа нумары (5. V. 90) зьмешчаны фатаздымак Данчыка ў гасьцях у майстра народных інструмэнтаў У. Пузыні.

### *«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА» БЕЗ «ПРАЛЕТАРЫЯЎ»*

Ці ня першай з афіцыйных друкаваных органаў БССР, газэта «Літаратура і Мастацтва», пачынаючы з нумару за 1-га чэрвеня сёлета, пачала выходзіць без стандартнага лёзунгу «Пралетарыі ўсіх краін яднайцеся!», замяніўшы яго купалаўскімі словамі «Людзьмі звацца!»

*Ліст у Рэдакцыю*

## ПРОСЬБА АБ ДАПАМОЗЕ ДА БЕЛАРУСАЎ ЗША

Зьвяртаюсь да Вас, сябры, па дапамогу. Я ведаю, як гэта нялёгка, але няма ў мяне іншага шляху, я павінен зрабіць гэта.

Маё прозьвішча Ягор (Ігар) Юршыц, 28 гадоў, жанаты, маю сына Юру. Вось ягоны лёс мяне і турбуе. Ён нарадзіўся ў ліпені 1984 году. Да Чарнобыля быў здаровенькі хлапчук. А пасьля Чарнобыля ён пачаў увесь час хварэць. У яго здарыліся сударгі і ён ледзь не памёр, павялічаная печань, увесь час трымаецца тэмпэратура 37.2-37.5 Цэльсія, яму ўдалілі адэноіды, але нос усяроўна дрэнна дыхае. Яго мэдыцынская картачка 6 см.

Міністэрства аховы здароўя СССР загадала засакрэціць дадзеныя па выніках радыяктыўнага заражэньня людзей пасьля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Урачам дыктуецца загад: трымаць у сакрэце ступень захворвальнасьці людзей, а пры звароце ў бальніцу ні ў якім разе ня зьвязваць хваробу з Чарнобылем. Вось як у СССР «клапоцяцца» аб здароўі людзей.

Дарагія сябры! Зьвяртаюся да Вас, да ўсіх людзей у ЗША, да Вашай міласэрнасьці! Дапамажэце як-небудзь майму сыночку, дапамажэце мне выехаць у ЗША. У мяне няма даляраў, але я гатоў працаваць па 18 гадзін у дзень, каб зарабіць грошы. Я гатоў на ўсё, каб выратаваць яго.

Маю спэцыяльнасьць — тэхнік-цеплатэхнік, маю цікавыя дызайнарскія распрацоўкі мэблі і іншых рэчаў, пачаў вывучаць ангельскую мову, згодзен на ўсякую працу. Вельмі хачу адчуваць сябе свабодным чалавекам, хачу каб сынок быў здаровы, добры і шчыры, а не піянер-камсамолец і паслухмяная рабсіла.

У мяне засталася адзіная надзея на Вашую дапамогу. Можна яшчэ шмат пісаць, але шкадуючы Ваш час, заканчваю. Дасылаю дадзеныя сваёй сям'і. Вельмі чакаю Вашага адказу. Малю Госпада Бога за Вас і Вашых родных.

Хай Жыве Беларусь!
З Верай і спадзеяй
Ягор Юршыц

Юршиц Игорь Вячеславович, род. 15 мая 1962 г.
Юршиц Тамара Михайловна, род. 9 августа 1962 г.
Юршиц Юрий Игорович, род. 10 мая 1984 г.

Адрас:
БССР, г. Мінск, 220131
а/я 162
тэл. 61-89-62

## ЗА ЎСЕБЕЛАРУСКУЮ КАНСАЛІДАЦЫЮ

Паэт, гісторык літаратуры й выкладчык БДУ Алег Лойка піша ў газ. «Літаратура і Мастацтва» (22. VI) пра сучаснае нацыянальнае Адраджэньне Беларусі і патрэбу ўсебеларускае кансалідацыі: «Па-новаму ідэя салідарызму як-бы адраджаецца, шукае свайго творчага, гуманістычнага працягу ў наш перабудовачны час. І, можа, гэта зараз найбольш выразна заўважна ў нашых сёньняшніх адносінах з замяжой, у вяртаньні ў матчынае ўлоньне беларускай паэзіі створанага на эміграцыі такімі паэтамі, як Натальля Арсеньнева, Масей Сяднёў, Хведар Ільляшэвіч, Уладзімер Дудзіцкі, Алесь Салавей і іншыя».

Але гэтага «вяртаньня», на думку Лойкі, яшчэ замала. «Калі ў нас ёсьць інтэрнацыянальнае пачуцьцё адзінства з Рускімі, Украінцамі, Палякамі, Літоўцамі, Латышамі, — піша ён, — то ганьба тым узурпатарам, якія забралі ў нас пачуцьцё адзінства нашага народу ва ўсім сьвеце, так натуральнае для ўсіх народаў сьвету!.. Мы-ж, Беларусы, асабліва ў пару засільля сталіншчыны і традыцый вульгарызму, да апошняга часу больш адчужалі ад сябе, чым прыбліжалі да сябе беларускую эміграцыю».

### ДЭМАКРАТЫЧНЫ КЛЮБ ДЭПУТАТАЎ

Каля трацціны дэпутатаў Беларускага парляманту (Вярхоўнага Савету), у тым ліку шасьцёх сяброў прэзыдыюму, далучыліся да Дэмакратычнага клюбу, паводля паведамленьня ТАСС (10.VII). Клюб будзе дамагацца дзяржаўнае сувэрэннасьці і эканамічнае незалежнасьці Беларусі.

Том Бэрд

# СКАРЫЎНАСКАЕ ЛЕТА

Пісьменьнікі XVIII-га стагодзьдзя вялі часамі падарожныя дзёньнікі, у якіх апісвалі бачанае, асабліва калі яно было зьвязанае зь нейкімі важнымі гістарычнымі падзеямі ці постацямі. Мае нядаўныя шэсьць тыдняў падарожжа па Ўсходняй Эўропе і ў Чыкага прайшлі пад знакам і ў цені вялікага гуманіста доктара Францішка Скарыны.

Скарынаўскае сьвята ў Менску было спалучанае са сьвятам славянскага пісьменства й культуры, на якое зьехаліся прадстаўнікі Баўгарыі, Польшчы, Чэхаславаччыны, Югаславіі, РСФСР, Украінскай ССР, Латвіі, Літвы, Эстоніі, беларускіх таварыстваў Масквы, Літы, Польшчы, а таксама заходнія беларусалёгі й прыяцелі Беларусі. Сьвята пачалося Літургіяй, якую адслужыў у Катэдральным саборы Мітрапаліт Менскі й Гарадзенскі Філарэт, галава нядаўна пераназванай Беларускай Праваслаўнай Царквы.

У часе сьвяточных дзён (24-27. V) адбыліся нарады аб заснаваньні ў Менску міжнароднай летняй школы беларускае мовы, літаратуры й культуры. У нарадах узялі ўдзел шасьцёра замежных гасьцей з Аўстрыі, Англіі, Швайцарыі і Злучаный Штатаў (Моніка Бянкоўская, Гэрман Бідэр, Джэймс Дынглі, Пітэр Майо, Фэрдынанд Нойрайтэр і Том Бэрд). Школа, як мяркуецца, пачне працаваць у 1991 годзе. На чале яе будзе стаяць выдатны спэцыяліст-пэдагог — кампэтэнтны і энтузіястычны — праф. Алег Лойка, а штадзённыя арганізатарскія справы будзе весьці энэргічны й здольны выкладчык БДУ, які ў часе нашага пабыту ў Менску быў прыняты ў Саюз пісьменьнікаў Беларусі, Уладзімер Наўмовіч. Увесь калетыў выкладчыкаў школы складаецца зь інтэлігентных і аддаых пэдагогаў, здольных забясьпечыць высокі узровень навучаньня.

Нам была дадзеная магчымасьць грунтоўна азнаёміцца зь Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэтам, унівэрсытэцкім музэем, Акадэміяй Навук, дзякуючы ласкавай гасьціннасьці сп. Адама Мальдзіса. Шчодрае прыймо, гутаркі зь пісьменьнікамі, рэдактарамі, гісторыкамі, заключны банкет фэстывалю славянскага пісьменства й культуры, прыемная сустрэча із старымі прыяцелямі ў Доме літаратара — Масеем Сяднёвам, Барысом Сачанкам і Алесем Баршчэўскім — цёплыя разьвітальныя словы — усё гэта пакінула незаціральнае ўражаньне дружнае сябрыны ды новых сьветлых даглядаў на ніве беларусаведнае працы. Я быў узрушаны ўсімі гэтымі падзеямі, якія напаўняюць багатым зьместа фразу Ларысы Геніюш «саборнасьць нашай літаратуры» — літаратуры на Бацькаўшчыне і ў дыяспары. Я меў яшчэ раз нагоду адчуць, якое дарагое й прывабліваe імя Натальлі Арсеньневай для чытачоў у ейнай роднай Беларусі.

Мы наведалі хату-музэй Янкі Купалы ў Вязынцы — што было ў праграме сьвята Славянскай культуры, — палюбаваліся народнымі танцамі, музыкай, мелі нагоду набыць у кіёсках сьвежыя выданьні, у тым ліку й скарынаўскія.

Зацікаўленьне валатоўскай постацяй Францішка Скарыны вельмі інтэнсыўнае ў Беларусі. Скарына вяртаецца да свайго народу. Шмат хто распытваўся ў мяне пра скарынаведную працу др. Вітаўта Тумаша, дапытваўся ягоных публікацыяў. Было прыемна й радасна бачыць, як вяртаюцца Беларусі ейныя растрачаныя культурныя і духовыя скарбы, ейныя раськіданыя па сьвеце рупліцыўцы культуры.

## МЕНСКАЯ ФОТАХРОНІКА




*Бацькі і дзеці пад штандарамі. Пікеты ля Дому ўраду. Травень 1990 г.*



*«Яднаньне» ўлады й народу. Сэсія Вярхоўнага Савету БССР звонку. Травень 1990 г.*

*З жыцьця ў Лёндане*

## ЛЕКЦЫЯ Ў СКАРЫНІНЦЫ ПРА ПАДЗЕІ Ў БССР

7-га чэрвеня ў залі Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны Англа-Беларускае Таварыства наладзіла лекцыю праф. Джэймса Дынглі пра сучасныя падзеі ў Беларусі. Сп. Дынглі нядаўна наведаў Беларусь. Дж. Дынглі — гісторык, славіст Лёнданскага Ўнівэрсытэту, старшыня Англа-Беларускага Таварыства — валодае здольнасьцяй уніклівага назіраньня і мае дар слова.

Ягоная лекцыя мела характар шырокага агляду дзеючых у БССР нацыянальных груп, плыняў і супрацьстаячых ім сіл намэклятуры, якая надалей застаецца на сваіх папярэдніх выгадных становішчах, трымаючы ў руках сродкі масавай інфармацыі, якімі эфэктыўна супрацьдзеяла дэмакратычным нацыянальным сілам у часе апошніх выбараў у рэспубліканскі парлямант. Хоць пастановаю Вярхоўнага Савету СССР Кампартыя пазбаўленая цяпер манаполю на ўладу, аднак у рэальным жыцьці нічога не зьмянілася, зазначыў дакладчык.

Але з эканомікай на Беларусі лепш, як у іншых рэп'ёнах СССР. Калі сярэдні эканамічны ўзровень у Савецкім Саюзе вызначаць лікам 100, дык узровень у Беларускай рэспубліцы сягае 120. Другая эканамічна мацнейшая рэспубліка — гэта Азэрбайджан, дзякуючы залежам нафты. У Беларусі добра развівітая прамысловасьць, і працавітасьць беларускага грамадзтва тлумачыць лепшы стан эканомікі.

Дж. Дынглі падаваў шмат фактаў, зь якімі яму даводзілася сустракацца як у Менску, так і паза ім, якія сьветчаць, што ў цяжкіх абставінах людзі за свой скромны грош публікуюць матар'ялы, змагаючыся за праўдзівую перабудову, не за «Паперабудову» (якраз гэтак загалоўленая перадавіца аднаго часапісу).

Зрабіўшы аналіз зацытаваных вытрымак зь дзясяткаў газэт і часапісаў, што выходзяць у Беларусі і ў рэспубліках Прыбалтыкі, праф. Дынглі сказаў, што назіраецца намаганьне беларускага актыву вярнуць грамадзтву перш-наперш людзкія вартасьці, без якіх нельга і думаць аб эканамічным і культурным развіцьці. Па заканчэньні лекцыі прысутныя маглі аглядаць розныя выданьні, якіх было пару дзесяткаў: «Навіны» БНФ з Рыгі, «Грунвальд» з Таліна і шэраг іншых...

Вечар закончыўся беларускімі напевамі Беларуса-акардыяніста зь Беларусі.

**А. Здановіч**

## ДЭМАКРАТЫЧНАЯ Й РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

ТАСС паведаміў 9 ліпеня аб рэгіянальных зьездах Дэмакратычнае партыі Беларусі ў Гародні, а ў Берасьці — Рэспубліканскае партыі. Дэмакратычная партыя, кажуць, можа далучыцца да Беларускага Народнага Фронту. Рэспубліканцы таксама падтрымваюць ідэю эканамічнае і палітычнае свабоды Беларусі, але ў саюзе з Расеяй і Ўкраінай. Рэспубліканцы плянуюць правесьці свой ўстаноўчы зьезд у Менску ў верасьні сёлета.

## ГАРБАЧОЎ І БЕЛАРУСКА-ЛЕТУВІСКАЕ СУМЕЖЖА

На прэсканфэрэнцыі ў Вашынгтоне 3 чэрвеня сёлета савецкі лідэр М. Гарбачоў гаворачы пра выхад Летувы з СССР шляхом рэфэрэндуму, нагадаў, што ў Летуве жыве 800 тысячаў не-Летувісаў ды зрабіў падобную заяву да таго, што была зробленая раней урадам БССР. «Сёньня, — сказаў Гарбачоў, — тэрыторыя Летувы ўключае ў сабе пяць раёнаў, што належалі да Беларусі». (NYT, June 4, 90)

## АДКІНУТА ЗАКАНАДАЎСТВА АБ ВАЕННЫХ ЗЛАЧЫНЦАХ

Як падала газэта «Нью-Ёрк Таймс» (6. VI), у брытанскім парляманьце, у рэдкай нязгодзе з Палатай Абшчынаў, Палата Лёрдаў выразнай бальшынёй галасоў адкінула законапраект, што дазволіў-бы перасьледаваць людзей, якія жывуць у Вялікабрытаніі, западозраных у ваенна-нацысцкіх злачынствах, зробленых у часе вайны ў Прыбалтыцы, на Беларусі і Ўкраіне.

## САЮЗ ПАЛЯКОЎ БЕЛАРУСІ

Згодна з паведамленьнем, атрыманым радыястанцыяй «Свабода» 26 чэрвеня сёлета, польска-культурныя таварыствы, што існуюць у розных раёнах БССР, аб'ядналіся ў Саюз Палякоў Беларусі. Старшыня СПБ Тадэвуш Гавін сказаў: «Мы здабылі больш правоў ува ўсіх сфэрах свае дзейнасьці. Цяпер будзе прасьцей наладжваць сувязі з Польшчай, іншымі краінамі, дзе жывуць Палякі. Мы здолеем высоўваць сваіх кандыдатаў у народныя дэпутаты Саветаў усіх узроўняў, выдаваць свой друкаваны орган, адчыняць навучальныя ўстановы».

Новая арганізацыя павінна быць зарэгістараваная Вярхоўным Саветам БССР.

## ПАКІДАЮЦЬ КАМПАРТЫЮ

«Летась у Беларусі здалі партыйныя білеты і кандыдацкія картачкі 3.283 камуністы. У першым квартале 1990 году з партыі выйшла 3.198 чалавек». Гэткія дадзеныя падала газэта «Известия» (18. VI), спасылаючыся на менскую публікацыю «7 дней». Газэта пералічае тры катэгорыі камуністаў, што пакідаюць партыю: 1. людзі з 25-30-гадовым стажам, якія «разгубіліся» і «не разумеюць новай партыйнай палітыкі»; 2. «баляст» — тыя, што прыйшлі ў партыю дзеля карысьлівых мэтаў; 3. «пэньсіянеры, самотныя, перастарэлыя», шмат хто зь якіх, чуючыся «непатрэбным ні грамадзтву, ні партыі», здаюць білеты.

Кампартыя Беларусі налічвае цяпер 697.600 сяброў. Максымум было 699.100 у 1988 годзе.

## ЛІТАРАТАРЫ-ЭМІГРАНТЫ Ў СП?

**У Менску зьбіраюцца подпісы пад пэтыцыяй, каб было дазволена беларускім эміграцыйным літаратарам быць правадзейнымі сябрамі Саюзу пісьменьнікаў Беларусі. Пад пэтыцыяй сабрана шмат подпісаў.**

 



*Зжыцьця ў Нью-Джэрзы*

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў ГАЙЛЕНД-ПАРКУ

27-га травеня парафія Божай Маці Жыровіцкай сьвяткавала Дзень сваёй патронкі. Сьвята было асабліва ўрачыстым, бо на сёлета прыпалі 520-я ўгодкі ад паяўленьня цудатворнага абраза Божай Маці ў Жыровічах. Урачыстую багаслужбу адправілі а. Архім. Карп Стар і настаяцель парафіі а. Прат. Васіль Андрэюк. Хорам кіраваў рэгент Якуб Сапежынскі. На ўрачыстасьць, апрача ўсіх мясцовых парафіянаў, прыбылі нашы суродзічы-каталікі ды шматлікія госьці з Бацькаўшчыны, Канады, штатаў Агаё, Масачусэтс, Канэтыкет ды суседняга Нью-Ёрку. Айцец Васіль сказаў прыгожую казань аб сьвяце, яго значэньні для нашай парафіі, Праваслаўнай Царквы ды беларускага народу сёньня.

За сьвяточнымі сталамі ў царкоўнай залі бяседу вёў сакратар парафіяльнай рады сп. Васіль Русак. Ён прывітаў сьвятароў, Старшыню Рады БНР др. Я. Сажыча і старшыняў БАЗА — сп. А. Шукелайця, ЗБК — сп. М. Ганька, БІНІМ — др. В. Кіпеля, рэдактара газэты «Беларус» др. Я. Запрудніка, кіраўніка ЗБАВ маёра С. Гутырчыка, гасьця зь Вільні сп. С. Дуж-Душэўскага, прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў ды гасьцей зь іншых штатаў, у тым ліку сп. А. Ліхача, які паходзіць з Жыровічаў, і яго сям'ю, вялікіх прыхільнікаў нашай парафіі.

Сп. Дуж-Душэўскі перадаў прывітаньне ад Беларусаў Вільні й Літвы. Шмат прамоўцаў віталі парафію са сьвятам, адзначаючы гармонію ў ейным жыцьці і далейшы рост.

Сп. В. Русак у рэфэраце на тэму «Божая Маці — нашая Патронка» гаварыў пра рэлігійнае, культурна-асьветнае і гістарычнае значэньне ў жыцьці беларускага народу паяўленьня вобразу Божай Маці ў Жыровічах. Трэба спадзявацца, сказаў ён, што аднаўленьне духоўнай сэмінарыі ў Жыровічах станецца пачаткам павароту Жыровічаў да свае гістарычнае й рэлігійна-асьветнае ролі.

*З жыцьця ў Нью-Джэрзы*

## ВЭТЭРАНСКАЕ СЬВЯТА

Сёлета Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў урачыста адзначыла традыцыйны Дзень Памяці (28. V) пры помніку Беларускім Гэроям у Іст-Брансьвіку. Цырымонія пачалася падняцьцем амэрыканскага й беларускага сьцягоў, салютам і прысягай, якую сказаў ад'ютант галоўнае кватэры ЗБАВ Лявон Шурак. Быў ускладзены вянок. Пратаярэй а. Васіль Андрэюк адслужыў паніхіду за душы тых, што аддалі свае жыцьцё ў змаганьні, і за расстраляных у Курапатах, ведамых і няведамых.



*Ля помніка Беларускім Гэроям на могільніку ў Іст-Брансьвіку.*

Кароткую прамову на тэму дня сказаў Сяргей Гутырчык, каманьдзер ЗБАВ на Амэрыку. У сваёй прамове Гутырчык гаварыў пра абарону беларускім жаўнерам межаў Бацькаўшчыны, нязьлічаныя ахвяры ў Першай і Другой сусьветных войнах. Успамінаючы беларускіх патрыётаў, што спачываюць на Беларускім магільніку, згадаў Мітрафорнага пратаярэя Хведара Данілюка, слуцкага паўстанца. Таксама ўспомніў амэрыканскіх жаўнераў беларускага паходжаньня, што змагаліся ў Карэі і ў В'етнаме супраць таго-ж самага ворага, што й іхныя бацькі — супраць камунізму. Жалобная ўрачыстасьць закончылася адсьпяваньнем песьні «Сьпі пад курганам гэрояў».

**Сяргей Пчала**

## ВІНШУЕМ!

Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў віншуе лейтэнанта



*Віктар Дубяга з жонкаю Алаю і а. Васіль Андрэюк.*

Віктара Дубягу зь 50-мі ўгодкамі жыцьця ды зычыць яму шмат гадоў добрага здароўя й посьпеху ў працы на вэтэранскай і наагул грамадзкай ніве.

**Галоўная Кватэра ЗБАВ**

## 20-Я ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ ПРЭЗ. М. АБРАМЧЫКА

У нядзелю 27-га травеня была ўшанаваная памяць Старшыні Рады БНР Міколы Абрамчыка. У царкве Божай Маці Жыровіцкай аа. Карп і Васіль адзалі коратка пра жыцьцё, дзейнасьць і дасягненьні Міколы Абрамчыка. Цікавую спасьцярогу зрабіў, гаворачы аб дзейнасьці М. Абрамчыка, др. Запруд-



*Мамэнт з паніхіды. Справа — а. Карп. Паміж сьцягамі — Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч. Фота А. Дубягі.*

служылі паніхіду. У часе жалобнае акадэміі Старшыня Рады БНР др. Я. Сажыч, старшыня галоўнай управы БАЗА сп. А. Шукелайць і рэдактар газ. «Беларус» др. Я. Запруднік расканік. Прамоўца сказаў, што М. Абрамчык прадказваў яшчэ ў 1958 годзе ўпадак камунізму і магчымасьць вызваленьня паняволеных народаў без вайны.

## ДАКЛАД АБ СЬВ. ЕЎФРАСІНЬНІ ПОЛАЦКАЙ

22-га травеня адбылася ў Нью-Брансьвіку 8-я гадавая навуковая канфэрэнцыя на тэму «Жыцьцё жанчын у зьменлівым сьвеце», наладжаная Інстытутам Дасьледаваньня Дзейнасьці Жанчын у супрацоўніцтве зь дзесяткам іншых установаў штату Нью-Джэрзы. Сп-ня Галіна Русак, дырэктар Бібліятэкі мастацтва пры штатным Ратгерскім унівэрсытэце, прачытала ў сэкцыі «Праваднырства жанчын у рэлігіях» рэфэрат на тэму: «Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая — сярэднявечны піянер ува ўсходня-эўрапейскім разьвіцьці». Сьв. Еўфрасіньня, сказала дакладчыца, была асобай моцнай волі і бачыла патрэбы Полаччыны. Яна была асьветніцай, ініцыяткай і мэцэнаткай разьвіцьця архітэктуры і іконапісу. Дзякуючы ёй, у Полацку паявіўся новы архітэктурны стыль. Ейныя ідэі пашырыліся на ўсю Усходнюю Эўропу. Асоба сьв. Еўфрасіньні патрабуе далейшых навуковых дасьледаў.

Рэфэрат сп-ні Русак ілюстраваўся дыяпазытывамі. Па ім адбылася дыскусія.

**В.**

## «СПАДАР МІНІСТАР»

На навукова-практычнай канфэрэнцыі, якую правялі супольна Таварыства Беларускай Мовы і Міністэрства народнай асьветы БССР, паводля «Настаўніцкай газэты» (23. V. 90), «многія ўдзельнікі канфэрэнцыі», гаворачы пра міністра народнай адукацыі М. Дзямчука, які таксама быў на канфэрэнцыі, казалі: «наш паважаны спадар міністар». Зусім добры і свой тэрмін — «спадар» — паступова ўваходзіць у агульны ўжытак.

## ЦАРКОЎНЫ ПІКНІК

У парафіі Сьв. Тройцы ў Доратэ быў наладжаны ў нядзелю 10-га чэрвеня, першую нядзелю пасьля Тройцы, царкоўны пікнік. На сьвята прыбыл парафіяне ды іхныя прыяцелі, а так сама парафіяне з суседніх парафіяў Гайленд-Парку і Нью-Ёрку. Былі так сама госьці зь Беласточчыны й Нава градчыны. Прыгожая багаслужба глыбокая пропаведзь і малебен за пада рожнічаючых а. Васіля зь сям'ёй ства ралі гармонію з цудоўнай наваколь наю прыродай гэтага прыгожага ку точка паўднёвага Нью-Джэрзы.

Прыняцьце адбылося на паляне кал царквы. Айцец Архім. Карп блаславі бяседу, прывітаў гасьцей ды падзяка ваў усім суседнім парафіянам за пад трымку. Прадстаўнік парафіі Божа Маці Жыровіцкай у сваёй прамове, на вязваючы да пропаведзі а. Карпа, ска заў, што сёньня шмат маладых бунту юцца супраць усяго і часам самі н ведаюць супраць чаго, і тут якраз роля Царквы паказваць маладым людзям хрысьціянскі напрамак у жыцьці — місія, якую ахвярна выконвае а. Карп.

**В. Р.**

### Новыя публікацыі

**БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ МАЛІТОЎНІК.** Другое выданьне, папраўленае й дапоўненае. Кансысторыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Таронта, Канада, 1990. 164 бб. Малога фармату, ілюстраваны. У кніжцы малітвы на ўсе нагоды, трапары, кандакі, пракімены, алілуяры й прычасьнікі. Тлумачэньні.

**Юрка Рапецкі. НОВАЕ ЖЫЦЬЦЁ Ў ХРЫСЬЦЕ.** Выд. Глабальнага місіянерскага радыёслужэньня. Таронта, Канада. 1989. 157 бб. У кнізе разьдзелы: Як стацца хрысьціянінам паводле Евангельля; Сутнасьць евангельскай весткі; Важнасьць Бібліі; Як вывучаць Біблію; Штодзённая сустрэча з Богам; ды іншае.

## *КАГО СЛАВІМ?*

### Ф. Скарына і А. Сувораў

Беларускі пісьменьнік Уладзімер Арлоў, рэцэнзуючы энцыкляпэдычны даведнік «Францыск Скарына і яго час» прывёў паказальную русафільскую статыстыку — рэха застойнага часу, калі зьнеслаўлялася сваё і ўсхвалялася ўсё, што ад «старэйшага брата»:

«На адным з апошніх пленумаў Саюзу пісьменьнікаў БССР пісьменьнік К. Тарасаў падаў красамоўныя факты: імём Суворава ў рэспубліцы названыя 58 вуліцаў і 30 калгасаў, а імём нашага першадрукара 8 вуліцаў і ніводнага калгасу ('ЛіМ', 12. V. 89). Камэнтары, як кажуць, лішнія, — піша У. Арлоў. — Асабліва калі ўлічыць, што бясспрэчна выдатная постаць Суворава ў гісторыі Беларусі зьвязаная першнаперш з жорсткім задушэньнем нацыянальна-вызвольнага паўстаньня Тадэвуша Касьцюшкі». («Нёман», 1990, № 3, б. 154)

 

 



# БЕЛАРУСЫ НА КАНГРЭСЕ СЛАВІСТАЎ КАНАДЫ

30-га, 31-га травеня і 1-га чэрвеня сёлета на ўнівэрсытэце Вікторыі ў Брытанскай Калюмбіі адбыўся гадавы кангрэс навуковых таварыстваў Канады. На сэсіі прысьвечанай беларускай тэматыцы, у рамках праграмы Канадзкай Асацыяцыі Славістаў, былі прачытаныя даклады: «Беларусь: чацьверты год пасьля Чарнобыля» (др. Зіна Гімпелевіч-Шварцман, Атаўскі ў-т); «Чарнобыль у сучасным беларускім выяўленчым мастацтве» (Івонка Сурвіла, БІНІМ) і «Ад сьцьвярджэньня да эстэтыкі: Беларусь як тэма ў паэзіі і ў музычным тэксьце» (Марыя Паўля Сурвіла, Мічыганскі ў-т у Ан-Арбары, ЗША).

**Праф. Гімпелевіч-Шмварцман** свой даклад, пабудаваны на савецкіх і заходніх крыніцах, пачала пашыранай на Беларусі цынічнай загадкай»: «Чаго мы ніколі ня мелі, чаго і цяпер няма, а што з кожным днём зьмяншаецца?» Адказ: радыяцыя...

Дакладчыца дала агляд галоўных падзеяў у чарнобыльскай катастрофе, памеры якое савецкія ўлады намагаліся засакрэціць, і толькі сёлета сьвет даведаўся, што 70 працэнтаў усіх радыёнуклідаў апала на Беларусь, што каля трох тысячаў беларускіх вёсак і гарадоў заражаныя радыяцыяй. На Беларусі цяпер, сказала праф. Гімпелевіч, у тры разы больш як да катастрофы дзеці хварэюць і паміраюць ад рака крыві (гэткія захворваньні на Захадзе вылечваюць у 80%, а ў Беларусі толькі ў 15%). Колькасьць радыяцыі ў Беларусі прыраўноўваецца да 60 гірасімскіх бомбаў.

На заклік аб дапамозе пачалі адклікацца іншыя краіны й прыватныя арганізацыі. Першай адгукнулася Швэцыя, якая бярэ тысячу беларускіх сем'яў. Ізраэль прыймае на лячэньне пэўную колькасьць беларускіх і ўкраінскіх дзяцей. Галяндыя запрасіла 300 дзяцей на летні адпачынак. Група Канадыйцаў з Брытанскай Калюмбіі адаптавала пацярпелую вёску.

Праф. Гімпелевіч адзначыла вялікую актыўнасьць Беларускага Народнага Фронту ў справе дапамогі ахвярам Чарнобыля, а таксама культурнага й моўнага адраджэньня Беларусі.

У дакладзе на тэму «Чарнобыль у сучасным беларускім выяўленчым мастацтве» **Івонка Сурвіла** сказала, што нягледзячы на тое, што яшчэ «тры, два, год нават паўгода таму назад, гаварыць праўду пра чарнобыльскую бяду нікому не дазвалялася» (Барыс Сачанка, «ЛіМ» № 35ІІ), беларускія мастакі на працягу ўсіх чатырох гадоў выказвалі свой боль і цярпеньні, спрычыненыя трагедыяй. «Мяне ўразіла пачуцьцё поўнай безнадзейнасьці, роспачы, разгубленасьці, якую я адчула ў шмат якіх творах», сказала дакладчыца. Паказаўшы сэрыю дыяпазытаваў найбольш характэрных твораў, дакладчыца прадставіла «Чарнобыльскі цыкль» М. Савіцкага, у якім мастак выяўляе, як «бяда прайшла па душах і лёсах людзей». Далей, яна спынілася над тэмамі мацярынства, нацыянальнага выжываньня ды над палітычнымі выказваньнямі, зьвязанымі з чарнобыльскай бядой. Івонка Сурвіла скончыла свой даклад малюнкам 9-гадовага Алеся Мікуловіча пад заг. «Чорная зьмяя 20-га веку», які быў нядаўна выстаўлены перад сядзібаю Аб'еднаных Нацыяў у Нью-Ёрку разам зь іншымі творамі беларускіх дзяцей.

Першую частку свайго дакладу **Марыя Паўля Сурвіла** прысьвяціла зьнітаванасьці, якая заўсёды была паміж беларускай паэзіяй і нацыянальнай тоеснасьцяй. Дакладчыца паказала, што ў гэткім якраз кантэксьце тэма гэтая набірае сваё поўнае значаньне, бо прадстаўляе сабой шмат больш, чым толькі замілаваньне краінай. «Нязьменная вернасьць тэме Беларусі ў менш чым спрыяльных абставінах стаецца тонкім, але магутным выяўленьнем тугі па лепшым гістарычным мінулым і таму — выяўленьнем незадаваленьня сучаснасьцяй». На пацьверджаньне сказанага дакладчыца падала цытаты з паэмы Сяржука Сокалава-Воюша «Мяккі знак».

Пачынаючы ад 1986 году, сказала Сурвіла, паэты, гаворачы пра Беларусь, карыстаюцца ўжо новай лексыкай сымбалізму: нацыя, пакалечаная і ўкрыжаваная чарнобыльскай ядзернай катастрофай, можа знайсьці збаўленьне толькі ў новай духовасьці. Гэтую новую тэндэнцыю дакладчыца праілюстравала творамі Рыгора Барадуліна «Беларусь на Крыжы» і Алега Бембеля «Ля рэчышча Віслачы».

Усе тры даклады былі прачытаныя ў ангельскай мове і былі цёпла прынятая зацікаўленай аўдыторыяй.

**Язэп Вішневіч**

*З жыцьця ў Чыкага*

## ВЯЛІКОДНАЯ ВЫСТАЎКА

Упяршыню Беларускі Каардынацыйны Камітэт Чыкага ўзяў удзел у вялікоднай выстаўцы ў Музэі Летувіскай Культуры. Дванаццаць этнічных групаў экспанавалі свае дэкаратыўныя яйкі, некаторыя стэнды дэманстравалі наведнікам тэхніку аздабленьня яёк. Выстаўка трывала ад 4 сакавіка да 30 красавіка.



*Беларускі вялікодны стэнд*

Наш стэнд аформілі сп-ні Людвіка Беленіс і Вера Рамук. Атракцыяй стэнду былі пісанкі, багатыя сваімі арнамэнтамі і кампазыцыяй. Сп-ня Л. Беленіс ужо даўно ведамая сваім майстроўствам аздабленьня яёк. Між іншага, ейныя пісанкі знаходзіліся ў беларускім музэі імя І. Луцкевіча ў Вільні перад Другой сусьветнай вайной. М. Кацар у сваёй кніжцы «Народна-прыкладное мастацтва Беларусі», выданай парасейску ў Менску ў 1972 годзе, нагадаў і адлюстраваў пісанкі Л. Будчанкі (дзявоцкае прозьвішча сп-ні Беленіс; у Кацара, праўда, напісана з памылкай: Л. Будченко), што знаходзяцца ў Віленскім этнаграфічным музэі. Сп-ня Л. Беленіс нарыхтавала свае пісанкі спосабам гравіраваньня-прадрапваньня або вышкрэбваньня белага ўзору на каляровым фоне пахварбаваных у цыбульным шалупіньні яёк.

Другая група пісанак, нарыхтаваных сьв. пам. Кацярынай Паўкэ, зробленая іншым спосабам — васкаваньнем: вузоры, захварбаваныя вясёлкавымі калёрамі, выступаюць у форме шлячкоў з рознымі геамэтрычнымі фігурамі і рэлігійнымі сымбалямі.

Трэцяя група ўключала драўляныя яйкі, размаляваныя ў розныя калёры. Чацьвертая — суцэльна захварбаваныя цыбульным шалупіньнем. г. зв. крашанкі.

Калі глядзіш на ўсе гэтыя пісанкі, міжвольна прыходзяць думкі аб традыцыйным качаньні яёк, гульні ў біткі ды валачобніцтва, што, на жаль, ня бытуюць больш на Беларусі, але ёсьць надзея на іх паварот.

**Др. Вітаўт Рамук**

*З жыцьця ў Дэтройце*

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА

У адрозьненьне ад папярэдніх гадоў, парафія Сьв. Духа ў Дэтройце сваё парафіяльнае сьвята ў гэтым годзе вырашыла сьвяткаваць у панядзелак 4-га чэрвеня, г. зн. у дзень Сьв. Духа.

Айцец Міхась Страпко адслужыў сьв. Літургію. Трэба сказаць, што хор вельмі добра справіўся.

Пасьля службы адбылася, хоць скромная, але ўрачыстая й прыемная пачостка. На гэта паслужыла прысутнасьць нашае зямлячкі — настаўніцы беларускае мовы з Барысава сп-ні Аліны Асакавай. Яна памагала свайму брату Аляксандру Ганчарову, заражанаму чарнобыльскай радыяцыяй, прыбыцьу Амэрыку, бо ён меў цяжкасьці хадзіць. Яго з маскоўскага шпіталя накіравалі ўва ўнівэрсытэцкі шпіталь у Ан-Арбары — шпіталь сусьветнае славы, што спэцыялізуецца ў лячэньні рака й розных захворваньняў ад радыяцыі. Паколькі брат яе быў у шпіталі, падрыхтоўвалі да апэрацыі, дык каб ёй ня нудзілася сядзець самой, мы запрасілі сп-ню Асакаву на парафіяльнае сьвята. Тут яна ўпяршыню пабывала ў царкве на беларускамоўнай службе.

Падчас абеду мы прывіталі нашу дарагую зямлячку, выказалі ёй спачуваньні з прычыны няшчасьця, якое напаткала ейнага брата.

Пад канец нашае скромнае бяседы наша зямлячка паднялася, каб падзякаваць за помач, якую мы ёй аказалі. Напэўна зьбіралася сказаць нешта больш, чым яна сказала. Усхваляваня й рашчуленая, яна адно прамовіла: «добрыя людзі, я вам шчыра дзякую», заплакала й села. У многіх з прысутных пабеглі сьлёзы, гледзячы на яе. Гэтая жанчына прыехала ў Амэрыку ня з роскашы, ня зь цікавасьці, як турыстка — няшчасьце прывяло яе сюды. На заканчэньне сьвяткаваньня сабралі крыху грошай ёй на дапамогу.

Тут будзе на месцы злажыць шчырую падзяку нашым жанчынам, сп-ні Каці Мазура й сп-ні Кляры Кумэйша, за зарганізаваньне й падрыхтоўку смачнае ежы на гэную пачостку. Прычым жанчыны адмовіліся ўзяць грошы, што выдалі на закупы прадуктаў. Сабраныя-ж грошы за абед былі перададзеныя зямлячцы з Барысава. Слава Вам, дарагія жанчыны!

Парафіяльнае сьвята кончылася нарадай, як зарганізаваць дапамогу нашым суродзічам з Барысава. Кошты, зьвязаныя з падарожжам і апэрацыяй, пакрываюць цяперашнія ўжо прафсаюзы. Але пасьля апэрацыі сп. Ганчароў павінен затрымацца тут яшчэ, магчыма, на два месяцы і хадзіць у шпіталь на абпраменьваньне. У шпіталі ён затрымоўвацца ня можа, бо гэта дорага каштуе, а грошай яны ня маюць. Ад нас яны спадзяюцца помачы, і гэтую помач мы павінны даць, бо калі ня мы, дык хто?

**М. Хацяновіч**

*З жыцьця ў Канадзе*

## *ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА*

16-га чэрвеня. Сьветлая ад сіняве́ы неба й цёплага сонейка раніца. Такія раніцы былі яшчэ толькі ў Беларусі, апетай Якубам Коласам у «Новай Зямлі». Такая раніца залівае чалавечую душу ціхой блаславёнай радасьцю. Такое адчуваньне й ёсьць Валадарствам Божым на зямлі.

Пазалочаны сонцам Беларускі памятны крыж у прошчы Мідлянду на ўзгорку, між стройных хвояў і валуноў, між бел-чырвона-белым беларускім і з кляновым лістком канадыйскім сьцягамі ўрачыста чакае на паломнікаў.

У традыцыйным з гатыцкімі вежамі касьцёле перад аўтарам — іконы Хрыста Збаўцы, Маці Божай і сьвятых на беларускіх настольніках тварылі іканастас, у якім да нашых сьвятых далучыліся й францускага паходжаньня паўночна-амэрыканскія пакутнікі.

На аналоі пасярод царквы разложаня праграмы беларускага паломніцтва ды кніжачкі з ангельскім тэкстам і нотамі сьв. Літургіі Яна Залатавуснага. Касьцёл напаўняецца людзьмі. Першыя рады занялі беларускія паломнікі, далей вернікі розных народаў і расаў зямлі.

Айцец Мэкэна, заступнік няпрысутнага ў той дзень дырэктара прошчы, прывітаў беларускіх паломнікаў, у першую чаргу айца Язэпа Сыру, настаяцеля беларускай царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага, каардынатара др. Раісу Жук-Грышкевіч, і пажадаў усім прыемна правесьці гэты дзень у прошчы.

Сьв. Літургію Яна Залатавуснага адслужыў а. Язэп Сыру. Сьпяваная ў бальшыні, Літургія перапляталася беларускай і ангельскай мовамі. Апостала чытаў прыяцель Беларусаў др. Морыс Мэрдок.

У сваёй казані а. Сыру гаварыў аб гісторыі беларускага народу й беларускай царквы, аб гісторыі старой і новай, аб цяперашнім духовым і нацыянальным адраджэньні ў Беларусі.

З кадзілам у руцэ выходзіць сьвятар на сярэдзіну царквы й моліцца за памерлых, «За супакой душ: Вінцэнта Жук-Грышкевіча, будаўніка Беларускага крыжа, за супакой душ усіх, а перадусім Беларусаў, тут і ў іншых месцах пахаваных...»

Літургія закончылася гімнам да Жыровіцкай Божай Маці.

Працэсія да Беларускага крыжа ўзьнімалася на ўзгорак, пяючы хвалу Прычыстай Марыі. Да паломнікаў-Беларусаў у працэсію далучыліся, выходзячы з царквы, і іншыя людзі. Як салавейка залівался побач мяне невялічкая ростам Філіпінка. Манумэнт Філіпінцаў стаіць па суседзтву з нашым Крыжам.

Пасьля малебну сьвятар запрасіў усіх на полудзень — пікнік. За бяседнымі сталамі ў цені дрэваў загаманілі, частуючыся, паломнікі. Францужанка з Квэбэку распытвае пра Беларусь. Сп. Аўген Кабяка з сынам, што прыехалі з Кліўленду, гамоніць з праваслаўнымі, што іміґравалі ў Канаду зь Іраку. Яны расказваюць, як іхнія далёкія продкі ў часе расейскай рэвалюцыі 1905 году эміґравалі ў Турэччыну, стуль у Ірак, а цяпер яны, нашчадкі, апынуліся ў Канадзе. Наш паважаны госьць з Рачэстару, паэтка Натальля Арсеньнева, уручае а. Сыру абяцаны ёю пераклад у ангельскую мову малітвы «Магутны Божа», тэкст якое выбіты на мэмарыяльнай дошцы на Крыжы. Пераклад зроблены так, каб «Магутны Божа можна было пяяць і паангельску. Айцец Язэп, пазнаёміўшыся зь перакладам прызнае, што Натальля Арсеньнева — «poet in any language».

Ад імя ўсіх каардынатар дзякуе а. Язэпу Сыру за багаслужбы ды сп-ні Бэрнадэце Мэрдок за арганізацыю гаспадарчага боку імпрэзы.

Дык да наступнага году... бывайце здаровы!

**Раіса Жук-Грышкевіч**

 

# ПІСЬМЕНЬНІК СЬПЯШАЕЦЦА НА ПАСЕДЖАНЬНЕ

*(Заканчэньне з 4-й б.)*

вязкавая плата за праўдзівае шчырае слова.

**Ад Васіля Быкава мы гэтых слоў пакуль што не пачулі, хоць гэткія словы й прагучэлі ад іншых — менш знакамітых, не абцяжаных лаўрэацкімі званьнямі і рознымі тытуламі.**

Усе гэтыя думкі прыходзілі мне яшчэ ў пермскім лягеры. І тым большае жаданьне было самому ўва ўсім разабрацца. А гэткае магчыма толькі пры асабістай сустрэчы, калі розныя дробныя, няўлоўныя іначасам неўсьведамляныя розумам штрыхі паводзінаў даюць больш для пазнаньня чалавека, чымся словы й нават цэлыя прамовы з трыбуны.

— Васіль Уладзімеравіч, прачытайце, калі ласка, гэты ліст. Ён невялікі — крышачку больш за дзьве старонкі. Ліст выйшаў зь лягеру, у існасьці мінуўшы цэнзуру і быў апублікаваны ў Самвыдаве.

Я падсунуў яму лісткі. У гэтым лісьце да сябры былі й гэткія радкі: «...калі-б Вы здолелі расказаць аб маім выпадку некаторым беларускім пісьменьнікам: А. Адамовічу, Н. Гілевічу і асабліва Васілю Быкаву. Бож аб праблеме беларускае культуры, мовы, русыфікацыі я адкрыта загаварыў, калі гэтыя пісьменьнікі, бадай, не адважваліся закранаць падобныя тэмы нават у сямейным коле, хоць знала аб гэтым больш, як я — просты рабочы. Ім-жа лягер ці выгнаньне не пагражаюць. Можа маё меркаваньне здасца нясьціплым, але я ўважаю, што памагаючы падобным да мяне людзям, яны хоць чысткава загладзяць сваю віну перад уласным сумленьнем за сваё шматгадовае маўчаньне, «нэўтралітэт», якія заўсёды падтрымвалі зло (або не перашкаджалі яму); за сваю цёплую хатнюю ўтульнасьць, сваё здароўе, тады калі ў псыхушках, турмах, лягерох людзі пакутавалі ад холаду й голаду, калечыліся й гінулі за сваю людзкую годнасьць; змагаліся за фізычную й доховую свабоду — сваю й чужую.

Мне ўяўляецца вялізарнейшым крывадушшам ахаць і охаць з прычыны «памылак» мінулага, раскопваць старыя магілы і архівы і пры гэтым адначасна, ува ўпор ня бачыць людзей, якія толькі нядаўна пакінулі лягеры з кляймом 'адшчапенцаў', 'паклёпнікаў' і г.д., і тым больш тых, што сядзяць за кратамі...
25 кастрычніка 1988 г. М. Кукабака».

Ня ведаю, аб чым думаў Васіль Быкаў, чытаючы гэтыя радкі.

Слова «галоснасьць» увайшло сёньня ў афіцыйную тэрміналёгію і ў бытавую лексыку. Але-ж строга гаворачы, гэткая галоснасьць — свабода выказваньня ў вызначаных дзяржавай межах — была ў Расеі заўсёды. Розныя былі толькі межы. Пры царах — адны, пры Сталіне — другія, пры Брэжневе — трэція. Пры Гарбачове межы крыху пашырыліся (не ў параўнаньне з царскімі), але тым ня менш далёка ня зьніклі.

І той, хто гэтыя межы парушаў, маментальна пазбаўляўся трыбуны. Таму што ўсе трыбуны ў гэтай краіне — манаполь дзяржавы.

Калі-ж хто-небудзь прабаваў перайсьці ідэялягічную мяжу нелегальна — надрукавацца ці выступіць у заходніх сродках інфармацыі, дык пакараньне вынікала нагэтулькі няўхільна, як і за спробу фізычнага пераходу дзяржаўнай мяжы.

Васіль Быкаў ніколі межаў не парушаў. Дзеля гэтага ён і лаўрэат. Дзеля гэтага і гэрой.

— Васіль Уладзімеравіч, у лягеры шмат Беларусаў, асуджаных па абвінавачаньні ў ваенных злачынствах, за супрацоўніцтва зь Немцамі ў часе вайны. Не аспрэчваю, магчыма сярод іх і ёсьць паасобныя адзінкі, якія на самой рэчы забівалі. Але пераважная бальшыня зь іх сядзіць паводле сфабрыкаваных справаў. Гэтыя людзі зусім безабаронныя, духова зломаныя. Пад пагрозай сьмяротнай кары супрацоўнікі КДБ змушалі іх падпісваць хвальшывыя сьветчаньні, паклёпнічаць адзін на аднаго. Яны — ахвяры праславутае брэжнеўскае кампаніі — «Ніхто не забыты, нішто не забыта». Гэтым людзям трэба дапамагчы.

— А Вы пішэце. Усё, што знаеце пра іх, — пішэце. Бо-ж у Вас няблага выходзіць.

— Адкуль-жа Вы ведаеце, выходзіць у мяне ці не? Вы-ж ніводнага майго радка ня чыталі.

— Але-ж Вы самі казалі, што Вас дзесьці публікавалі?

— Праўда, але савецкія ўлады характарызавалі напісанае мною, як «злосныя паклёпніцкія выдумкі, якія былі выкарыстаны органамі прапаганды капіталістычных краін у варожай кампаніі супраць СССР».

Ён прамаўчаў.

Ці па гэтую параду я прыехаў да яго? І ці трэба даваць мне падобную раду? Калі якая-небудзь магчымасьць зьяўлялася, я заўсёды гаварыў і пісаў тое, што думаў і бачыў. І не на чыю-небудзь параду, а часьцяком наўсуперак парадам; наўсуперак пагрозам усякім. За што й плаціў дарагую цану.

Раптам Васіль Быкаў спытаў:

— Скажэце, а дзе Вы ўладзіліся і на якія сродкі жывяце?

Узьнікла нявыразнае адчуваньне якойсьці няўлоўнай трывогі ў душы і жаданьне апраўдвацца. Пасьля сэкунднае зьбянтэжанасьці я зразумеў прычыну. У падобнай форме звычайна задаюць пытаньні сьледчыя, працаўнікі міліцыі. Чалавек у падыходзе да другога чалавека з прэзумпцыяй дабрыні, пытаецца інакш, сам ці рэдчас саромеючыся свайго пытаньня: «Скажэце, а як у Вас са сродкамі? Можа ў Вас якая-небудзь патрэба цяпер?» ці неяк інакш, але ў падобным сэнсе.

Гэтак як у мяне спыталі — пісьменьнік спытаць не мог. «Падобным чынам пытаньне мог сфармуляваць толькі лаўрэат Ленінскай прэміі», з горкай іроніяй падумалася мне.

І адказ мой быў адказам чалавека, што апраўдваецца ў нязробленым праступку.

— Ну, прыпыніўся ў Маскве. У адных знаёмых пераначую, у другіх... Дый вакзалаў стае. Што-ж да «сродкаў», дык штосьці зарабіў у лягеры, чымсьці памаглі людзі, якіх улады заўсёды называлі «антысаветчыкамі».

Адолеўшы адказ, я працягнуў лаўрэату тры маленькія рукапісы.

— Васіль Уладзімеравіч, гэта я хачу падарыць Вам. Не вазьмеце мой жэст за самалюбства графамана. Вось гэтыя два маленькія нарысы ўвайшлі ў маю «справу». Прачытайце іх. Будзеце ведаць, за што ў гэтай краіне можна адседзець 10 гадоў. А вось гэты артыкул — «Мне сорам за свайго бацьку» — аб афганскай праблеме. Напісаны ў лягеры за паўгода да вызваленьня. Цяпер я яго аднавіў і паслаў у самвыдаў. Газэта «Правда» адмовілася яго публікаваць. З гэтага артыкулу відаць, што мае перакананьні ані не зьмяніліся. Яны засталіся тымі-ж, што й да арышту.

Васіль Быкаў зноў зірнуў на гадзіньнік і падсунуў рукапісы. Я прыкрыў тэкст далоняй.

— Цяпер ня трэба чытаць. Прачытайце, калі ласка, дома, калі будзе вольны час. Яны вельмі невялікія, шмат увагі не адымуць.

І апошняя маленькая просьба, больш я Вас не затрымаю. У канцы сьнежня я дастаў ліст зь Лёндану ад незнаёмае мне дасюль спадарыні Караліны Браўн. Яна шмат гадоў садзейнічала вызваленьню гэткіх як я і майму асабіста. Прачытайце, калі ласка, ён зусім кароценькі — усяго дзьве бачынкі. А вось лістоўка ў маю абарону, якая распаўсюджвалася ў Ангельшчыне. Калі хочаце, вазьмеце яе.

— Лістоўка мне не патрэбная, а паангельску не разумею — і лаўрэат, ня зірнуўшы, наважана адсунуў яе ўбок. Ліст прачытаў, не камэнтаваў ніяк. І мы рассталіся.

У лісьце незнаёмае мне жанчыны зь незнаёмае мне краіны былі гэткія радкі: «...кожны тыдзень я пісала Вам, а мае калегі пісалі савецкім уладам...».

Між іншага, за ўсё 10 гадоў супрацоўнікі КДБ не прапусьцілі да мяне ні аднаго ліста з-за мяжы.

«...Усюды, дзе змаглі, мы расказвалі аб Вашай долі. І калі людзі даведваліся пра Вашу гісторыю, яны звычайна хацелі памагаць Вам. Многа, многа людзей у Англіі, у Даніі, у Аўстрыі, у ЗША, на Ямайцы, у Новай Зэляндыі, у Аўстраліі — пісалі савецкім уладам і Вам. На шчасьце, сытуацыя ў СССР зьмянілася і сёньня Вы свабодны...».

Так, мяне вызвалілі, таму што наша доля была неабыякавай многім людзям у шмат якіх краінах. Былі такія людзі — падзьвіжнікі — і тут, у Маскве.

І толькі ў Доме літаратара Беларусі мяне сустрэла і правяло Раўнадушша. Выходзячы з вэстыбюлю, я заўважыў абвестку, што заклікала літаратараў сабрацца для вылучэньня кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савету ад Саюзу пісьменьнікаў БССР.

P.S.

Зь Менску я заскочыў у Бабруйск па рэчы, якія павінны былі перахоўвацца на складзе апячатанымі да майго вызваленьня.

Дзе там! Як я й думаў, частка іх была раскрадзена старшым сьледчым Пічуговам. Частка згніла за 10 гадоў. Усё было звалена ў кучу, абы-як. Гэтак званыя «пячаці» — паперкі паадклейваліся. Дый ці былі яны прыклеены?

Новы прайгравальнік, куплены да арышту, разламаны і заплесьнеў. Кружэлкі для вывучэньня ангельскае мовы раскамплектаваныя, г.зн. украдзеныя.

Наогул усё папсаванае, як-бы спэцыяльна. Відаць, у пэўнасьці, што я ніколі не вярнуся. Пэўна-ж, разьлічвалі правільна. Судзіцца з уладамі ў гэтай краіне — пагатоў са сьледчымі КДБ — бясэнсоўна. Яны заўсёды маюць рацыю, нават робячы праступкі. У «родным» горадзе начаваў на вакзале. Міліцыянер, што правяраў дакумэнты, адмовіўся дапамагчы ўладзіцца ў гасьцініцу.

У СССР былы вязень ня мае права на гасьцініцу. Ягонае месца ў лепшым выпадку на вакзале. У горшым — пад плотам.

3-4 студзеня 1989 г.

З расейскае пераклаў
Янка Запруднік

### *ІНТЭРВ'Ю З В. БЫКАВАМ*

Англамоўнае выданьне маскоўскай «Литературнай газеты», якое пачало выходзіць сёлета як месячнік, зьмясьціла ў другім нумары (люты) вялікае інтэрв'ю з Васілём Быкавам і фатаграфіяй пісьменьніка, «вэтэрана беларускай літаратуры». У інтэрв'ю Быкаў гаворыць пра сталінізм, застойную атмасфэру ў Менску, нефармальныя арганізацыі «Талака», «Тутэйшыя», «Мартыралёг», а таксама пра літаратурна-ідэйныя спрэчкі з расейскай літаратуры.

**В. Зубкоўскі**

# ЧЭРВЕНЬ 1930 ГОДУ

Месяц чэрвень у навейшай гісторыі Беларусі — памятны й трагічны. У чэрвені 1930 году ў БССР пачаліся масавыя арышты беларускае нацыянальнае інтэлігенцыі, якой быў прычэплены ярлык «нацдэмаў» (нацыянальных дэмакратаў). Праўда, былі арышты й раней: у 1920 годзе быў расстраляны пісьменнік і грамадзкі дзеяч Фабіян Шантыр, неўзабаве былі забароненыя беларускія нацыянальныя арганізацыі, арыштаваныя браты Пашковічы, забаронены прыезд на Беларусь прафэсару Даўнару-Запольскаму.

Пагром беларускае нацыянальнае інтэлігенцыі бальшавікі пачалі плянаваць ужо ў другой палове дваццатых гадоў. У Беларускай Акадэміі Навук, Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце, адміністрацыйным апараце, пісьменьніцкіх арганізацыях былі назначаныя кіраўнікі, шмат дзе не-беларусамі, прыежджымі людзьмі. І ў партыі некаторыя камуністы-Беларусы былі адсунутыя ад вышэйшых адміністрацыйных органаў. Але беларускі нацыянальны актыў не зьвяртаў на гэтыя перамены ўвагі, бо ніхто не ўяўляў сабе маштабаў рыхтаванага зьнішчэньня. Энэргія беларускага актыву была накіраваная на нацыянальную працу: разбудову школьніцтва, рыхтаваньне кадраў, разьвіцьцё культуры.

Але ў чэрвені 1930 году ўсё стала ясна: пляны савецкае ўлады — гэта ня пляны Беларусаў.

У чэрвені ў Менску было арыштавана больш за 500 асобаў, а празь лета арышты пашырыліся і на іншыя гарады, і да верасьня месяца ў турмах БССР было пару тысячаў арыштаваных — у асноўным працаўнікі культурных установаў, настаўнікі, адміністратары.

Улады інтэнсыўна пачалі рыхтаваць грамадзкую думку да публічнага працэсу над «нацдэмамі». У друку «нацдэмам» ставілася ў віну, што яны імкнуліся стварыць незалежную Беларусь ды адарваць яе ад Савецкага Саюзу. Газэты пісалі, што «нацдэмы» мелі сваю падпольную арганізацыю, якая была зьвязаная з Захадам. На чало гэтае фікцыйнае «арганізацыі» ўлада плянавала паставіць каго-небудзь з выдатных Беларусаў, як прыкладам Янку Купалу ці Ўсевалада Ігнатоўскага. Аднак ужо ўвосень 1930 году савецкай уладзе стала ясна, што зладзіць публічны працэс «нацдэмаў» ня ўдасца. Абвінавачаў ня было, дый сярод арыштаваных панавала цьвёрдая наважанасьць адстойваць на судзе свае правы. Савецкія кіраўнікі пабачылі, што справа абяртаецца ня ў іх карысьць. Таму, прыблізна праз год-паўтара пасьля першых арыштаў, «нацдэмаў» пачалі засуджваць тайна, безь ніякіх судоў. Бальшыню зь іх выслалі зь Беларусі, некаторых назаўсёды.

Чэрвень 1930 году стаўся пачаткам масавых рэпрэсіяў савецкае ўлады супраць Беларусаў. Рэпрэсіі працягваліся праз 30-я гады і другую палавіну 40-х ды каштавалі Беларусі больш за два мільёны жыцьцяў. Беларускі народ і дасюль ня можа залячыць раны гэтай генацыднай акцыі.

# ПІСЬМЕНЬНІК НАВЕДАЎ БАЦЬКАЎШЧЫНУ

Паэт і празаік Масей Сяднёў, які жыве на Лёнг-Айленьдзе каля Нью-Ёрку, пабыў у травені-чэрвені сёлета на Беларусі, у Менску і ў сваёй роднай мясцовасьці каля Рэчыцы, дзе людзі пакутуюць ад чарнобыльскае радыяцыі. Цяжкое ўражаньне!

У Менску сп. Сяднёў сустракаўся зь літаратарамі і студэнцкай моладзяй, даваў літаратурныя вечары і інтэрв'ю газэтам («Знамя юности», 17. V; «Чырвоная зьмена», 6. VI), быў на сьвяце славянскага пісьменства, якое з багатай праграмай праходзіла ў сталіцы Беларусі. «Масей Ларыёнавіч, — піша «Чырвоная зьмена», — цікава расказаў пра свой асабісты жыцьцёвы і творчы лёс, пра жыцьцё Беларусаў у Злучаных Штатах Амэрыкі, пра разьвіцьцё кнігавыдавецкай і ўвогуле культурнай дзейнасьці на эміграцыі, прачытаў свае вершы».

У менскіх часапісах і ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» будуць публікавацца творы Масея Сяднёва, выйдзе зборнік ягоных вершаў і прозы. Студэнтка Варшаўскага ўнівэрсытэту Ганна Шэшка піша пад кіраўніцтвам праф. А. Баршчэўскага магістэрскую працу на тэму «Проза Масея Сяднёва».

У Менску ў часе пабыту сп. Сяднёва хадзіла па руках пэтыцыя з просьбай да адпаведных чыньнікаў, каб і літаратары-эмігранты маглі быць праваздейнымі сябрамі Саюзу пісьменьнікаў Беларусі. Пад пэтыцыяй падпісаўся і М. Сяднёў.

Пруманскі Уладзімер

## МАЛЕНЬКАЯ БАЛЯДА

*Дагарае сьвечка. Дагарае.*
*Сьветлячкі крычаць ужо:*
*цяпла ім не давай*
*гарэць занадта шпарка,*
*бо застанецца малы агарак.*
*Дагарае сьвечка.*
*Мо павольна трэба,*
*каб яшчэ хвілінай белай*
*сьветлай*
*капціла і смылела?*
*Сьвечкі іншыя гараць...*
*Дагарае сьвечка*
*хутка ці павольна.*
*...воск расплаўлены сьцякае*
*уніз сьлязою*
*із сьвечкі.*
*Сьлёзы потым скажуць:*
*дагарэла сьвечка, дагарэла.*

Кастрычнік 1989

## БЭЛЭР-МЕНСК ЗАПРАШАЕ!

На беларускім лецішчы ў штаце Нью-Ёрк Бэлэр-Менск сэзон пачаўся 7-га ліпеня. У праграме сёлетняга сэзону:

СПАРТОВАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЙ МОЛАДЗІ (4-5 жніўня: спартовыя спаборніцтвы, вечарына, пад аркестру Гэнры Вячоркі, выбары «Міс спорт»).

ВЕЧАРЫНА (11 жніўня).

ФЭСТ. ДЗЕНЬ СМАЛЕНСКАЙ ІКОНЫ БОЖАЕ МАЦІ (багаслужбы, міжпарафіяльны пікнік).

ВЕЧАРЫНА (1 верасьня; агульны пікнік, аркестра Г. Вячоркі).

ЗАКАНЧЭНЬНЕ СЭЗОНУ (3 верасьня).

ДАЖЫНКІ (15 верасьня; супольны абед).

Телефон мэнаджэра: 914-856-8532.



*Рэцэньзія*

Васіль Крупскі

# «ПРАЗ РОК-ПРЫЗМУ»

На маім рабочым стале — невялікае паводле лістажу, ня вельмі кідкае выданьне ў цёмна-зялёнай вокладцы. «Праз рок-прызму» — такую назву далі свайму тварэньню два менскія аўтары — супрацоўнікі «Чырвонай зьмены»: Вітаўт Мартыненка, паведамленьні якога часта гучаць у беларускіх праграмах радыястанцыі «Свабода», і добра вядомы ў колах беларускіх «рокераў» Анатоль Мяльгуй. У кароткім прадмоў'і да кніжкі др. Янка Запруднік так ахарактарызаваў еўны галоўны накірунак:

«Кніга Вітаўта Мартыненкі і Анатоля Мяльгуя — першая для Беларусі гэткая публікацыя — пісалася з думкаю галоўна пра маладога беларускага мэлямана. Абодва аўтары, у памяці якіх яшчэ сьвежыя іхныя юнацкія гады, адкрываюць перад чытачом дагляды музычнага жанру, супраць якога і ў гадох перабудовы афіцыйная ідэялёгія ня спыніла наступу».

І сапраўды. Кніга разьлічаная выключна на тых маладых, і, дарэчы, ня вельмі маладых, людзей, каго хвалюе складаны і разам з тым надзвычай бурны лёс беларускага року. На сваім шляху да сёньняшняга «буму» гэты жанр прайшоў праз цэлы шэраг выпрабаваньняў, пераадолеў мноства перашкодаў, і ня толькі ідэялягічных. Памятаецца, якую хвалю крытыкі з боку дзядкоў-вэтэранаў і камсамольскіх агітатараў выклікалі першыя беларускія рок-групы канца шасьцідзесятых. У чым іх толькі ні абвінавачвалі — і ў здрадзе ідэалам інтэрнацыяналізму, і ў насаджэньні «хаатычных сынкопаў загніваючага Захаду», і ледзьве не ў жаданьні пераходу дзяржаўнай мяжы. Мне ў пэўным сэнсе пашанцавала — я яшчэ засьпеў далёкія і адначасова слаўныя будні беларускага року. Здаецца, нібыта сёньня стаяць перада мной першыя канцэрты першых рок-групаў у толькі што пабудаваным тады кінатэатры «Піянер». У тую незабыўную пару беларускія рокеры сьпявалі пераважна «бітлаўскі» рэпэртуар. Праўда, на арэну пачыналі ўжо выходзіць «Песьняры», аднак нават самы закаранелы аптыміст наўрад ці ўзяўбы на сябе сьмеласьць прадказаць ім узьлёт на самы Алімп беларускага і ўсесаюзнага року, які тады зрабіў гэты рок-гурт.

Сёньня, у эру нячуванай раней у Савецкім Саюзе свабоды творчасьці, рок-гурты ў нашай рэспубліцы нараджаюцца, нібыта грыбы пасьля моцнага восеньскага дажджу. Неяк мы тут, у Мюнхэне, спрабавалі падлічыць, колькі-ж усё-такі рок-ансамбляў існуе цяпер у рэспубліцы. На другім дзесятку мы, прызнацца, зьбіліся.

Тым, хто хоча больш-менш пасьпяхова арыентавацца ў акіяне сёньняшняга беларускага року, і пакліканая дапамагчы кніга Мартыненкі і Мяльгуя «Праз рок-прызму». Вяртаючыся да яе зьместу, хацелася-б зазначыць, што гэта — першая ў рэспубліцы, хоць і невялікая, але ўсё-ж сапраўдная энцыкляпэдыя нацыянальнай рок-музыкі, зробленая паводле ўсіх законаў гэтага нялёгкага жанру. У ёй вы знойдзеце літаральна ўвесь спэктр інфармацыі, як кажацца, ад «а» да «я» беларускай рок-музыкі.

Гэтае выданьне, без аніякага сумненьня, выкліча ўзмоцнены інтарэс на Захадзе, і ня толькі з боку аматараў року і спэцыялістаў. У папулярнасьці і даходлівасьці выкладаньня, у прыгожасьці мовы, якою напісана кніга, у веданьні тэматыкі твор Мартыненкі і Мяльгуя ня ведае эквівалентаў. У гэтым — галоўная перавага кнігі «Праз рок-прызму». Да еўных «недацяжак» можна аднесьці занадта малую інфармацыю аб заходніх рок-гуртах, якімі так цікавіцца беларуская моладзь, і той факт, што такая патрэбная ўсім кніга выдадзеная толькі на Захадзе. Аднак, апошні недахоп можа быць зь лёгкасьцю ліквідаваны — праўда, у тым выпадку, калі сваё стаўленьне да рок-музыкі зьменяць «уладу маючыя», якія вызначаючца ня толькі сваёй партыйнай прыналежнасьцю, але й празьмерным нэгатывізмам у дачыненьні да рок-музыкі.

Ну, а тых, каго сапраўды цікавіць беларускі рок, мне хацедася-б павіншаваць зь неардынарнай падзеяй — з выхадам у сьвет у Злучаных Штатах кнігі Вітаўта Мартыненкі і Анатоля Мяльгуя «Праз рок-прызму».

***Ад Рэдакцыі:*** *Гэтую рэцэнзію Васіля Крупскага, супрацоўніка Беларускай сэкцыі радыё «Свабода», перададзеную на Беларусь 25 травеня, поўнасьцяй зьмясьціла газэта «Чырвоная зьмена» (16.VI.90).*

## ПЕРАВЫДАЕЦЦА «НАША НІВА»

Менскае выдавецтва «Навука і тэхніка» пляную перавыданьне ў шасьцёх выпусках на працягу 1990-94 гадоў газэты «Наша Ніва», што выходзіла (ілюстраваная) у Вільні ў 1906-15 гадох. Кошт усяго выданьня, як мяркуецца, будзе 30 рублёў. Калі хто хоча набыць гэтую багатую крыніцу матар'ялаў пра Беларусь, хай безадкладна пашле падпіску праз кнігарню савецкіх выданьняў у сваёй ці іншай заходняй краіне (рэдакцыя «Беларуса» можа дапамагчы інфармацыяй). Пры гэтай нагодзе перадаём ад выдаўцоў вялікую просьбу: Калі хто-небудзь з Вас мае паасобныя нумары «Нашай Нівы», паведамце нам ў рэдакцыю «Беларуса». Мы Вам прышлём сьпісак колькіх нумароў, якіх выдаўцом нестае.

# «СЛАВЯНСКАЕ СЭРЦА Б'ЕЦЦА НЕРЭГУЛЯРНА»

Пад гэткім загалоўкам зьмешчаная ў бэльгійскім флямандзкамоўным тыднёвіку «Інтэрмэд'ер» (№ 7. 1. V. 90) другая частка матар'ялу «Пытаньне нацыянальнасьцяў у Савецкім Саюзе». У першай частцы аўтар артыкулу Дырк Дыленс даволі цікава й дэталёва аналізуе пытаньне балцкіх рэспублікаў, асабліва абвешчаньне незалежнасьці ў Летуве. Другая частка прысьвечаная Беларусі і Украіне.

Што да Беларусі, дык Дыленс вельмі слушна зазначае, што пра Беларускую рэспубліку зь дзесяцімільённым жыхарствам вельмі мала ведама. Прыкладам, кажа Дыленс, у кніжцы амэрыканская экспэрта(?) Робэрта Конкўэста «Апошняя імпэрыя: нацыянальнасьці і савецкая будучыня» (выд. Гувэрскай інстытуцыі, Стэнфард, 1986) пра Беларусь абсалютна нічога не сказана.

Даныя, якія Дыленс падае ў сваім артыкуле, для нас ня новыя. Аўтар аднак варты пашаны: паколькі мне ведама, у флямандзкім друку гэта першы матар'ял зь бесстароньнім падыходам аўтара і з дакладнай інфармацыяй. Таму варта спыніцца і з паглядзець, аб чым ён піша.

Ён піша аб тым, што на Беларусі, як і ў рэспубліках Прыбалтыкі, назіраецца рост нацыянальнай сьведамасьці. У Беларусі аднак працэс гэты праходзіць зь цяжкасьцямі, бо Беларусы былі моцна зрусыфікаваныя яшчэ ў XIX-м стагодзьдзі. Дыленс сьціслa расказвае пра пэрыяд незалежнасьці Беларусі ад сакавіка 1918 да студзеня 1919 году; піша пра падзел Беларусі ў 1921 годзе, пра росквіт у 1920-гадох ды страту нацыянальнай інтэлігенцыі ў БССР у наступным дзесяцігодзьдзі. Сталінскі тэрор, піша Дыленс, каштаваў Беларусі 2 мілёны ахвяраў, і яшчэ больш, 2,2 мілёна, узяла фашысцка-нямецкая акупацыя.

Цяпер вядзецца змаганьне за адраджэньне, піша бэльгійскі журналіст, справа набірае размаху. Карэспандэнт дае агляд захадаў, якія рабіліся беларускім актывам для адраджэньня нацыянальнае культуры. Ён інфармуе пра дзьве пэтыцыі дзеячоў беларускай культуры да Гарбачова: ліст 28-х з 1986 году і 134-х, пасланы ў чэрвені 1987 году. Коратка пераказвае зьмест гэтых пэтыцыяў. Апісвае таксама, як зараджаліся нефармальныя арганізацыі, як праходзіла змаганьне паміж нефармальнымі арганізацыямі моладзі і інтэлігенцыі ды органамі кансэрватыўнае ўлады, як міліцыя брутальна здушвала гэты рух.

Вялікі грамадзкі ўздым, піша Дыленс, выклікала раскрыцьцё ў чэрвені 1988 году масавых магілаў у Курапатах, дзе ляжаць дзесяткі тысяч, а паводля некаторых да 300 тысячаў расстраляных Беларусаў.

Расказвае бэльгійскі карэспандэнт і аб заснаваньні Мартыралёга Беларусі ды Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», падае праграму БНФ апісвае цяжкасьці, якія мае на сваім шляху беларускае адраджэньне. У выніку напорнае дзейнасьці БНФ, які знайшоў падтрымку з боку летувіскага руху «Саюдзіс», афіцыйныя ўлады змушаныя былі пайсьці на сустрэчу. Быў прыняты закон аб дзяржаўным статусе беларускае мовы, палепшала крыху справа выданьня беларускіх кніжак. Улады аднак, піша Дыленс, і далей супрацівяцца беларускаму нацыянальнаму адраджэньню, пра што сьветчаць прынятыя законы аб абмежаньні журналісцкай свабоды і забароне нацыянальнае сымболікі.

**Я. Ж.**

## ПАПРАЎКА

У папярэднім нумары ў падзяцы ад танцавальнага ансамблю «Васілёк» ахвярадаўцам за шчодрае падтрыманьне летняга падарожжа «Васілька» ў Беласточчыну былі памылкова прапушчаныя ньюджэрзыйскі адзьдзел БАЗА і Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, якім «Васілёк» таксама шчыра дзякуе.

## ВЯРТАЙЦЕ ЦАРКВЕ БЕЛАРУСКУЮ МУЗЫКУ!

Заказвайце з выдавецтва «Божым Шляхам»: Marian House, 37 Holden Rd., London N 12, England.

1. **Беларускі царкоўны сьпеўнік** (Лёндан, 1979) — поўная Літургія Сьв. Яна Хрызастома. Больш за 200 старонак напеваў з Супрасьля, Жыровічаў, Вільні, Гародні, Падляшша і Палесься разам з працамі беларускіх кампазытараў Анцава, Туранкова, Куліковіча-Шчаглова, Равенскага ды іншых. Цана: 10 ам. дал.

2. **Беларускі духоўны сьпеўнік** (Вільня-Лёндан, 1980-1989) — традыцыйныя кантычкі калядкі на ўсе сьвяты са старых беларускіх багагласьнікаў ды іншых зборнікаў (па-беларуску), аранжыраваныя Клімовічам, Равенскім, Куліковічам-Шчагловам, Галкоўскім, Туранковам ды іншымі, зь некаторымі міжнароднымі гімнамі. Больш за 70 сьпеваў. (З працягам) Цана: 5 ам. дал.

3. **Іншыя літургічныя сьпевы** можна набыць у фатастаце. Усякі арыгінальны матар'ял, прысланы для публікацыі, будзе прыняты з удзячнасьцяй.

Прыбытак з продажу будзе перададзены на фонд дапамогі ахвярам чарнобыльскай радыяцыі.

# СЬВ. ПАМ. ЭДВАРД ШАБУНЯ

**(23. I. 1915 — 24. V. 1990)**



Ні ўлеўны дождж, ні працоўны дзень 29 траўня 1990 году не перашкодзілі Беларусам зь Нью-Ёрку і ваколіцаў зьехацца на парафіяльныя могілкі Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансьвіку, каб аддаць апошнюю пашану сьв. пам. Эдварду Шабуні. Пахавальныя абрады, паніхіду ў ньюёркскім пахавальным бюро, а пасьля пахавіны на могілках адправіў а. Васіль Андрэюк з праваслаўнай царквы БАПЦ ў Гайленд-Парку. Пасьля пахавінаў сям'я нябожчыка зладзіла памінальны абед у царкоўнай залі.

Спаткацца ўпяршыню з Эдвардам Шабунем, якога ў сям'і і ў кругу прыяцеляў называлі Дзюнікам, давялося мне летам 1941 году ў разбураным Менску пры працы ў Беларускім Гістарычным Музэі. На заклік гарадзкой управы група маладых аматараў старыны й мастацтва пад кіраўніцтвам мастака Габрыеля Віера сабралася ў Гістарычным музэі, што знаходзіўся ў Юбілейным Доме (каля Дому Чырвонай Арміі), каб захаваць ад зьнішчэньня тыя прадметы старыны, абразы і кнігі, якія яшчэ ня былі разрабаваныя нямецкімі жаўнерамі і мясцовымі хуліганамі ды валяліся па падлогах заляў і ў двары музэю. У ліку гэтых аматараўдабраахвотнікаў быў і Дзюнік.

Сьв. пам. Эдвард Шабуня паходзіў са старой беларускай шляхоцкай сям'і. Яго бацька Аляксандар Шабуня, інжынер-мэханік, быў прафэсарам Беларускага Палітэхнічнага Інстытуту, маці Эмілія была роднай сястрой Антона й Івана Луцкевічаў. Відаць ад дзядзькі Івана былі ў Дзюніка аматарскія зацікаўленьні да калекцыянаваньня старых манэтаў, паштовых марак і інш.

Жылі Шабуні ў Менску ў доме Луцкевічаў пры Садовай вуліцы № 2. Гэты дом пры апошняй перабудове гораду, ужо пасьля вайны, быў разбураны. Там цяпер парк імя Янкі Купалы. Эдвард любіў расказваць, як ён, застаўшыся адзін ў часе пажару Менску, ратаваў свой дом, абкладаючы мокрымі посьцілкамі плот, які ўжо быў у агні. Як памятка сядзібы Луцкевічаў, засталася толькі таполя, саджанец якое Дзюнік вылавіў са Сьвіслачы яшчэ хлапчуком.

Вучыцца і працаваць адначасова выпала Эдварду ў самыя цяжкія часы ў іхнай сям'і: арыштаваныя й сасланыя былі ў канцлягеры далёкай поўначы маці Эмілія з дачкою і родны дзядзька доктар Сьцяпан Луцкевіч з жонкай.

Дзюнік скончыў Архітэктурна-будаўляны тэхнікум і працаваў пры будовах розных новых праектаў, а між імі, пад кіраўніцтвам свайго прафэсара архітэктара Лаўрова, пры будове клінічнага гарадка.

Сьв. пам. Эдвард у сваёй прафэсіі быў добрым спэцыялістам і ў сваім фаху працаваў на эміграцыі ў Нямеччыне і ў Амэрыцы да выхаду на пэнсію.

Нябожчык пакінуў у цяжкім суме жонку Бланьдзіну, дачок Ліду і Мілю, унукаў ды праўнукаў і сёстраў зь сем'ямі.

Вечная памяць.

**Ант. Шукелайць**

### ПАДЗЯКА

Ня маючы магчымасьці асабіста выказаць падзяку ўсім, хто разьдзяліў нашае гора, бяручы ўдзел у пахаваньні дарагога й незабыўнага мужа, бацькі, дзеда й прадзеда сьв. пам. ЭДВАРДА ШАБУНІ, гэтай дарогай складаю падзяку а. Васілю Андрэюку за выкананы абрад пахавінаў, усім тым, што прыслалі кветкі і выказалі спачуваньне асабіста або пісьмова.

**Бланьдзіна Шабуня зь сям'ёй**

# СЬВ. ПАМ. АЛЯКСАНДАР СМАЛЬ

19-га сакавіка сёлета неспадзявана адыйшоў ад нас сьв. пам. Аляксандар Смаль. Выйшаў а пятай гадзіне ўвечары купіць газэту і на скрыжаваньні дарог яго ўдарыў аўтамабіль, спрычыніўшы сьмерць.

Нябожчык пражыў 77 гадоў, пражыў іх дастойна, справядліва й сумленна. А. Смаль быў яркім прыкладам беларускага інтэлігента, выхадца зь сялянскай гушчы. У даваеннай Польшчы сыну малазямельнага селяніна здабыць вышэйшую асьвету раўнялася цуду, а памерлы дасягнуў гэтую мэту, напорыста працуючы. Унівэрсытэцкая вучоба была перапыненая дзеля недахопу сродкаў, але ўсё-ж Смаль закончыў настаўніцкія курсы ў Вільні. Ад 1939 да 1944 году працаваў настаўнікам у роднай Наваградчыне. Выехаўшы ў Нямеччыну, у лягерох перасяленцаў таксама выкладаў беларускую мову ў гімназіі.

Ад травеня 1948 году жыў у Аўстраліі, і тут не пакінуў сваёй пэдагагічнай і грамадзкай дзейнасьці. Памерлы быў сябрам-закладчыкам Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі і першым рэдактарам часапісу — «Новае Жыцьцё». На працягу многіх гадоў даваў гістарычныя даклады ў Беларускім клюбе.

Чалавек лагоднай натуры, ветлівага падыходу і пашаны да людзей, А. Смаль ня меў ворагаў. У жалобе і смутку пакінуў жонку Ізабэлю, дачку Марыю (др. хімічных навук), шваграў і швагерак зь сем'ямі і сотні прыяцеляў.

Няхай сьніцца Табе родная Наваградчына і лёгкай будзе аўстралійская зямля.

**М.**

### ПАДЗЯКА ЗА ПРЭСАВЫ МАТАР'ЯЛ

Рэдакцыя «Беларуса» з удзячнасьцяй адзначае заслугу наступных асобаў, якія патурбаваліся прыслаць нам прэсавыя выразкі або копіі артыкулаў і паведамленьняў зь бягучага друку: В. Стэх, Г. Сагановіч, А. Маркевіч, Я. Міхалюк, М. Швэдзюк, Я. А., Ю. Найдзюк, Я. Калбаса, др. У. Набагез, М. Нікан, М. Сьнежка, др. Б. Кіт, В. Станкевіч, Б. Даніловіч, М. Сяднёў, Л. Шурак, Ул. Бакуновіч, С. Яновіч, В. Махнач, К. Верабей.

# СЬВ. ПАМ. БРАНІСЛАЎ ДУБОЎСКІ

**(19. VIII. 1905 — I. VI. 1990)**

Рэдакцыя газэты «Беларус» атрымала сумную вестку аб сьмерці ў гор. Лінкальне ў штаце Нэбраска сьв. пам. Браніслава Дубоўскага, нараджэнца Случчыны, якога некаторыя з нашых чытачоў ведалі асабіста, як добрага чалавека й Беларуса, прыкладнага сем'яніна і працавітага грамадзкага актывіста, калі ён жыў у Зах. Нямеччыне ў ДП-лягеры Шляйсгайм каля Мюнхэну. Там сьв. пам. Б. Дубоўскі быў актыўным сябрам беларускае грамады, браў удзел як дыктар у беларускіх радыяперадачах. Ён быў сталым падпішчыкам газэты «Беларус», на выдавецтва якое запісаў у сваім тэстамэньце тысячу даляраў ахвяры.*

Для сям'і нябожчыка ягоная сьмерць была неспадзяванай і сталася балючай стратай. Ягоныя дзеці, сын Аляксандар і дачка Людміла, якая жыве ў гор. Мантысэла, штат Індыяна, памятаюць бацьку, як чалавека, жыцьцё якога было прыкладам мужнасьці ў абліччы жыцьцёвых цяжкасьцяў, перашкодаў і трагедыі. Дзеці сьв. пам. Дубоўскага вельмі гордыя за свайго бацьку, які адзначаўся адначасна багатай і чульлівай натурай.

Нябожчык пакінуў у глыбокім смутку сваю сям'ю: дачку Людмілу з мужам Мэртам Джэйкабам, сына Аляксандра з жонкаю Барбараю і ўнука Паўліка. Пакінуў ён па сабе таксама рукапіс свае біяграфіі, якую закончыў пісаць у лютым сёлета.

Вечная яму памяць.

Калі-б хто-небудзь зь ягоных прыяцеляў ці знаёмых хацеў падзяліцца ўспамінамі аб ім на старонках «Беларуса», рэдакцыя ахвоча гэткі ўспамін зьмесьціць.

## СЬВ † ПАМ. АННА ГАНЭЦКАЯ

Нарадзілася 24.IX.1910 г. ў Забалоцьці на Дзісеншчыне, памерла 29.IV.1990 г. ў Каліфорніі. Сем'ям Ганэцкіх і Протасаў выказваюць найшчырэйшыя спачуваньні

**Сябры**

## СЬВ. † ПАМ. ЯНКА МАЗУРА

Народжаны ў в. Ракава каля Маладэчна 7 студзеня 1923 г., па доўгай хваробе памёр 1 чэрвеня 1990 году. Быў дзейным сябрам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі ад самага пачатку — 1946 г. Пахавальны абрад выканаў а. Прат. Ян Абабурка. Паховіны адбыліся на Скунтроп могільніку. ЗБВБ рэпрэзэнтавалі старшыня Я. Міхалюк і сп-ня Л. Міхалюк. У смутку засталіся: жонка Брыгіда, тры сыны, дзьве дачкі і трое ўнукаў. Выказваем ім глыбокія спачуваньні.

**Галоўная Ўправа ЗБВБ**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прасылана беспасярэдне ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Л. (Дубоўская) Джэйкаб | 1000 |
| В. і М. Махнач | 150 |
| Ю. і Л. Кіпель | 100 |
| М. Рагуля | 100 |
| Ф. Бартуль | 100 |
| В. Плескач | 100 |
| Ул. Траскевіч | 100 |
| Архіеп. Мікалай | 58 |
| А. Чарнэцкая | 50 |
| П. Рамана | 50 |
| І. Шчорс | 30 |
| Л. Паплаўскі | 30 |
| М. Белямук | 25 |
| М. і І. Александар | 20 |
| Я. Юхнавец | 20 |
| Л. Данілюк | 20 |
| М. Шуст | 20 |
| Я. Шымчык | 15 |
| Б. Паўке | 10 |
| Л. Літаровіч | 25 |
| С. Навумчык | 20 |
| С. Мажэйка | 20 |
| Э. Маркоўская | 20 |
| С. Шабовіч | 20 |
| В. Мельяновіч | 20 |
| М. Рагалевіч | 20 |
| Ю. Азарка | 20 |
| Н. Кіт | 20 |
| Т. Пятроўскі | 20 |
| М. Александар | 20 |
| П. Нядзьвецкі | 20 |
| М. Кумэйша | 20 |
| М. К. | 10 |
| М. Пракопчык | 30 |
| Я. Скурат | 20 |
| Усяго | 900 |

*Замест кветак на магілу с.п. Анны Ганэцкай:*

| | |
|---|---|
| К. і Я. Вініцкія | 25 |
| Ю. і Ч. Найдзюкі | 10 |

*Замест кветак на магілу с.п. А. Верабей:*

| | |
|---|---|
| А. Орса-Рамана | 50 |

*Замест кветак на магілу с.п. Пётры Орсы*

| | |
|---|---|
| І. Цупрык | 30 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| М. Смаршчок | 100 |
| Ул. Т. | 100 |
| В. Кажан | 60 |
| Р. Завістовіч | 50 |
| Б. Грабінскі | 40 |
| В. Валаткевіч | 40 |
| Н. Орса ў памяць дарагога мужа Пётры | 30 |
| Л. Шурак | 30 |
| Л. Кавалёў | 30 |
| П. Кулеш | 25 |
| А. Скаўронскі | 25 |
| М. Прускі | 25 |
| С. Грамыка | 25 |

**БЭЛЬГІЯ**

*Праз нашага прадстаўніка сп. П. Барысіка:*

| | |
|---|---|
| А. Арэшка | б.фр. 400 |
| І. Саўка | 1000 |
| Р. Занькоўскі | 600 |
| З. Смаршчок | 1400 |
| Я. Жучка | 500 |
| Л. Клыбік | 1000 |
| П. Барысік | 500 |
| Усяго | 5400 |

**АЎСТРАЛІЯ**

*Праз нашага прадстаўніка сп. М. Лужынскага:*

| | |
|---|---|
| М. Мілеўскі | 50 |
| Л. Парэцкі | 60 |
| У. Радзевіч | 50 |
| Усяго | 160 |

*Замест кветак на магілу с.п. А. Смаля:*

| | |
|---|---|
| О. Качан | аўстр.д. 50 |
| С. Нарушэвіч | 50 |
| М. Лужынскі | 50 |
| Э. Парэцкая | 20 |
| Усяго | 170 |

Усім шчыра дзякуем!

**Выдавецтва «Беларус»**